15

РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 15 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №38 (96). 28 ВЕРАСНЯ 1993 ГОДА.




стар. 6 — 7

## ПРАВА ВЕДАЦЬ








*Так называўся калоквіум з удзелам журналістаў Беларусі і іх германскіх калег, якія прайшоў у рамках фестывалю «Залатое пяро»-93. І гэтая тэма сапраўды, можна сказаць, была галоўнай у праграме журналісцкага форуму, што адбыўся 25 верасня ў Мінску. (Стар.2)*

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.





# ПРАВА ВЕДАЦЬ

*Прэсу сёння нездарма называюць «чацвёртай уладай». Уздзеянне яе на грамадскую свядомасць ва ўмовах пераходу ад таталітарнага грамадства да дэмакратычнага, да стварэння прававой дзяржавы цяжка пераацаніць. І прысутнасць на свяце прэсы спікера беларускага парламента Станіслава Шушкевіча, пасла ФРГ у Беларусі Готфрыда Альбрэхта, міністра культуры Яўгена Вайтовіча, міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча, мэра беларускай сталіцы Аляксандра Герасіменкі трэба разглядаць як натуральную даніну павагі да журналістаў, сярод якіх былі і галоўныя рэдактары выданняў з усяе рэспублікі.*

*Але Саюз журналістаў Беларусі праводзіў гэты фестываль, вядома, не толькі дзеля афіцыйных цырымоній і прафесійных дыскусій. Ён быў задуманы як свята, удзельнікі якога маглі б сустрэцца ў нефармальнай, сяброўскай атмасферы. І разам з тым — падзяліцца вопытам з замежнымі калегамі: супрацоўнікамі тэлекампаніі «ЦДФ», радыёстанцыі «Дойчэ Веле», газеты «Вестдойчэ альгемайнэ» і іншых сродкаў масавай інфармацыі ФРГ...*

Прафесія, як кажуць, абавязвае. Таму цэнтральнай падзеяй для ўдзельнікаў першага фестывалю беларускай журналістыкі «Залатое пяро»-93 стала, несумненна, прэс-канферэнцыя, падчас якой журналісты змаглі задаволіць свае «правы ведаць» і атрымаць інфармацыю па самых актуальных пытаннях ад кіраўніцтва рэспублікі, міністэрстваў і ведамстваў. Большасць пытанняў на прэс-канферэнцыі задавалася, канечне, спікеру Вярхоўнага Савета, бо ён сапраўды трапіў «з карабля на баль», паколькі толькі напярэдадні вярнуўся з Масквы, дзе было падпісана пагадненне кіраўнікоў краін СНД аб эканамічным саюзе. Выказаўшы разуменне і падтрымку дзеянняў прэзідэнта Расіі ў цяперашняй сітуацыі, Станіслаў Шушкевіч станоўча ацаніў падпісаныя ў Маскве дакументы. Але ж не хаваў цяжкасці і праблемы, якія давядзецца пераадольваць Беларусі, каб выйсці з эканамічнага крызісу. Адна з праблем, напрыклад — як абараніць правы спажыўцоў Беларусі пасля знікнення мытных бар'ераў. Канцэпцыя заключанага саюзу, паводле слоў Старшыні Вярхоўнага Савета, заключаецца менавіта ў ліквідацыі мытняў і іншых абмежаванняў у гандлі паміж краінамі СНД. Беларусі патрэбны сродкі ад продажу тавараў. Але, як запэўніў спікер парламента, урад прымае неабходныя меры, каб абараніць інтарэсы насельніцтва рэспублікі, унутраны рынак.

Вялікая група пытанняў тычылася сродкаў масавай інфармацыі і іх узаемадзеянн з дзяржавай. На думку С.Шушкевіча, уладныя дзяржаўныя структуры не павінны ў будучым быць заснавальнікамі выданняў (за выключэннем афіцыйных бюлетэняў і зборнікаў нарматыўных актаў), бо гэта супярэчыць прынцыпу свабоднай і аб'ектыўнай інфармацыі. Выказаўся ён і за неабходнасць больш хуткага прыняцця закону аб друку, які гарантаваў бы правы журналістаў.

Многія, напэўна, задаваліся рытарычнымі пытаннямі: а ці да святаў і фестываляў сёння, у такі складаны і драматычны перыяд, які ўсе мы перажываем. Намеснік старшыні Міжнароднай канфедэрацыі журналістаў У.Сакалоў, які прыехаў



на фестываль з Масквы, нагадаў, што нашы калегі ў розных краінах СНД сутыкаюцца не толькі з парушэннем правоў на атрыманне інфармацыі, але праследуюцца, рызыкуюць жыццём, трапляюць у турмы (як, напрыклад, у Таджыкістане). Прафесія журналіста ў непраўным грамадстве адна з самых няўдзячных і небяспечных. Але, відаць, менавіта ў наш час — час канфліктаў, канфрантацыі і раз'яднанасці такія фестывалі патрэбныя як ніколі.

У той дзень у Палацы моладзі, дзе адбывалася свята прэсы, не было падзелу на «правых» і «левых». Усе аднолькава шчыра віталі сваіх калег, якія сталі лаўрэатамі «Залатога пяра». Уручэннем сімпатычных прызоў, якія падрыхтаваў генеральны спонсар фестывалю фірма «Інтэрбел», і завяршылася афіцыйная частка. Гэтым можна было б скончыць наш кароткі рэпартаж з яго... Але лічу патрэбным сказаць колькі словаў і пра тое, што засмуціла. На жаль, арганізатарам не ўдалося пазбавіцца ад некаторых старых звычак, выпрацаваных у «старыя добрыя часы». Некаторыя мерапрыемствы (напрыклад, пасля агульнай прэс-канферэнцыі прайшла яшчэ адна, доступ на якую быў абмежаваны) праводзіліся, так бы мовіць, у «вузкім коле». Гэта паставіла ў даволі няёмкае становішча многіх гасцей фестывалю. Як сумясціць раздзяленне па рангах з «правам ведаць» і звычайнай гасціннасцю, наршце? Што ж, і гэтае пытанне — з разраду рытарычных.

**Віталь ТАРАС.**

# ПРЭМІІ ЖУРНАЛІСТАМ

*24 верасня, напярэдадні першага фестывалю беларускай журналістыкі «Залатое пяро»-93, у музеі Якуба Коласа была наладжана сустрэча кіраўнікоў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь з супрацоўнікамі прэсы, радыё і тэлебачання. Міністр Яўген Вайтовіч у нязмушанай абстаноўцы ўручыў грашовыя прэміі «За вялікі асабісты ўклад у прапаганде адраджэння нацыянальнай спадчыны, аб'ектыўнае асвятленне праблем і набыткаў культуры» Т.Абакумоўскай — карэспандэнту газеты «Рэспубліка», Л.Бацюшкавай — ст. рэдактару літаратурнай рэдакцыі Беларускага радыё, Г.Булыка — рэдактару аддзела газеты «Культура», Л.Гарошка — каментатару Беларускага тэлебачання, І.Гурыновіч — карэспандэнту газеты «Советская Белоруссия», Р.Гамзовіч — ст.рэдактару рэдакцыі грамадска-палітычных праграм Беларускага радыё, М.Гарэцкай — каментатару Беларускага тэлебачання, А.Жуку — уласнаму карэспандэнту Цэнтральнага тэлебачання па Рэспубліцы Беларусь, С.Ільюшэнка — каментатару перадачы «Радыёфакт» Беларускага радыё, Я.Казюлі — фотакарэспандэнту Белінфарма, А.Масарэнку — гал.рэдактару часопіса «Першацвет», Д.Падбярэзскаму — нам.галоўнага рэдактара часопіса «Мастацтва», Л.Перасыпкінай — спецыяльнаму карэспандэнту Белінфарма, М.Старых — заг. аддзела газеты «Добры вечар», А.Сцяпанаву —гал. рэдактару рэдакцыі «Крыніца» Беларускага радыё, І.Сысоеву — каментатару перадачы «Радыёфакт» Беларускага радыё, В.Сычэвіч — карэспандэнту Беларускага радыё. У гэты дзень журналісты з цікавасцю слухалі супрацоўнікаў музея Я.Коласа і атрымалі ад іх адмысловыя сувеніры. Прыемна, што гасцёўня вялікага песняра застаецца месцам творчых сустрэч.*

**Наш кар.**

Палітычны барометр

# СТАРАСЦЬ — НЕ РАДАСЦЬ

Трапнасці народных прымавак здзіўляцца не перастаеш. Фізічная старасць, з яе хваробамі, слабасцю, часам адзінотай, а цяпер яшчэ і пустым кашальком — выпрабаванне не з лёгкіх. Ды яшчэ горш, пэўна, састарэць у сэнсе палітычным. Балюча тады ўсведамляць, што твае палітычныя ідэалы, твае памкненні і мары дзень за днём атрымліваюць усё больш адчувальныя ўдары Часу, і ўсё менш застаецца побач аднадумцаў і паплечнікаў.

Зварот да кіраўнікоў дзяржаў былых рэспублік СССР — яскравае сведчанне такога вось палітычнага старэння, няўменя глянуць на стан рэчаў свежым, новым поглядам, няздольнасці шукаць нетрадыцыйных, але адзіна выйгрышных хадоў.

Вядома, выпадкова, але нават сам Час пасмяяўся над «падпісантамі», згуляўшы з імі злосны жарт — у дзень апублікавання звароту звесткі з Масквы ў імгненне вока зрабілі гэты дакумент нікому не патрэбным.

Давайце скажам шчыра — з трох адрасатаў (Ельцыну, Чарнамырдзіну і Хасбулатаву) слёзная просьба ўзяць Беларусь у канфедэрацыю з Расіяй была накіравана менавіта апошняму. Ён, Руслан Імранавіч, павінен быў узначаліць рух за аб'яднанне. Ды толькі (вось не пашанцавала!) спікер расійскага парламента ў гэты момант быў ужо проста прыватнай асобай, прафесарам Хасбулатавым, які да таго ж усчыняе і арганізуе супрацьзаконныя дзеянні.

Не сакрэт, што ў краінах былога СССР вось ужо два гады існуе жорсткае супрацьстаянне між прыхільнікамі старых метадаў і, так бы мовіць, рэфарматарамі. Раскладка сілаў у кожнай краіне атрымалася спецыфічнай, а ў Расіі, бадай, самай цікавай. Калі ў нас, на Беларусі, і ў парламенце, і ва ўрадзе працуюць у асноўным людзі, якія трапілі на свае пасады яшчэ ў часы БССР, то выканаўчая ўлада Расіі на чале са сваім Прэзідэнтам дэманструе прынцыповы новы, рэфарматарскі падыход да развіцця эканомікі. Як вынік, вялікая суседка за два гады Амерыку хоць і не абставіла, але нас ужо перагнала. Расіяне, між іншым, гэта ацанілі і лаяльнасць да свайго Прэзідэнта выказалі аднaзначна.

Словам, супрацьстаянне ў краіне выявілася ў неспрыняцці адзін аднаго народных дэпутатамі і ўрадам.

Развязка гэтага канфлікту ў Маскве наступіла на працягу двух апошніх тыдняў. Спачатку ва ўрад вярнуўся Ягор Гайдар, якога можна смела назваць найбольш паслядоўным прыхільнікам рэформаў сярод расійскіх эканамістаў. Гэта засведчыла перамогу тых сілаў, якія гатовыя да жорсткіх радыкальных захадаў у сферы эканомікі. Вяртанне Гайдара, між іншым, пацвердзіла і перамогу лініі Фёдарава супраць пазіцыі Герашчанкі і Лобава, ці, працей кажучы, нежаданне ўрада фінансаваць не толькі стратныя прадпрыемствы, але і стратных тэрыторыі. А стварэнне эканамічнага саюза з краінамі СНД сёння, калі разлікі між імі вядуцца па спекулянцкаму валютнаму курсу, азначала б менавіта бессэнсоўнае (для Расіі, вядома) уліванне сродкаў у эканоміку іншых дзяржаў.

Нашыя мясцовыя прыхільнікі саюза гэтага не заўважылі ці не ацанілі, і дарэмна. Бо прыход Гайдара стаў прадвеснікам наступнага кроку Прэзідэнта — роспуску Вярхоўнага Савета Расіі і прызначэння новых выбараў.

І вось тут таварыш Руслан Імранавіч разам са сваімі сённяшнімі найлепшымі сябрамі Бабурыным, Макашовым і г.д. праявіў сябе ва ўсёй красе. Іх «закон» аб пакаранні смерцю прыхільнікаў Ельцына інакш як гібрыдам сярэднявечча і сталінізму не назавеш. А трагічныя паведамленні пра забойствы, учыненыя людзьмі Хасбулатава, якія прыйшлі ў чацвер і пятніцу, сталі яшчэ адным доказам своечасовасці захадаў Прэзідэнта: страціўшы рэшту сумлення, цемрашалы не астановяцца ні перад чым.

Зрэшты, «вернемся да сваіх баранаў». Пра тое, на якія сілы, на каго асабіста спадзяваліся таварышы-падпісанты, сведчыць інтэрв'ю «Звяздзе» лідэра фракцыі «Беларусь» Г.Казлова. Ён недвухсэнсоўна заявіў, што падтрымлівае імпічмент Прэзідэнту Расіі. Людзям, якія падпісалі дакумент, па праўдзе кажучы, можна было б шчыра паспачуваць, каб не невялікі нюанс. А нюанс гэты ў тым, што менавіта яны складаюць большасць нашага парламента і кіруюць нашай эканомікай, а таму і спачуваць ім не хочацца.

Так, адбылося крушэнне іх знешнепалітычных спадзяванняў! Але за два апошнія тыдні здарылася яшчэ адна прыемная рэч. А таму, што адбываецца ўнутры краіны, даў ацэнку Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, — рэзкія словы ў адрас выканаўчых структур абышлі ўжо многія газеты. Уцямных тлумачэнняў ці абвержанняў таму мы так і не пачулі. На наш погляд, цяпер беларускаму кіраўніцтву прыйдзецца перагледзець свой падыход і да СНД, і да рэформаў унутры краіны.

Нездарма ж высеклі самі сябе тыя, хто падпісвае звароты: «Глыбокія крызісныя з'явы, узнікшыя ў апошнія гады па нашай уласнай віне...» — лепш і не скажаш! Як не выкажаш больш шчыра і сваіх адносін да дзяржаўнасці Беларусі, усунуўшы ў пісульку чарнасоценную фразачку пра «парад суверэнітэтаў» і «нацыянальна-тэрытарыяльны сепаратызм».

І апошняе. Тое, што маскоўскія інфармацыйныя агенцтвы перадалі зварот як дакумент, падпісаны пераважнай большасцю палітычных партый і рухаў Беларусі, мяне не здзівіла. Уразіла іншае: некаторыя імёны і дэкларваныя паўнамоцтвы, якія стаяць пад лістом да Хасбулатава. Мне, напрыклад, было б вельмі цікава даведацца, калі, на якім сходзе атрымалі правы выступаць з палітычнымі заявамі ад імя сваіх арганізацый кіраўнікі фонду культуры, саюза журналістаў, канфедэрацыі творчых саюзаў? Ці, можа, сумленней было б падпісацца проста: «пісьменнік», «артыст», «журналіст»? Зрэшты, гэта сапраўды справа сумлення.

А нам з табой, паважаны чытач, застаецца толькі ўважлівей прыглядзецца да падзей у Маскве, маліцца Богу, каб новая расійская рэвалюцыя не прынесла больш крыві, і спадзявацца на тое, што калі не мы самі, дык яна пэўным чынам зменіць сітуацыю на Беларусі, і мы больш не будзем мець шчасця бачыць падобныя звароты.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**

# БАЦЬКА ЧОНКІНА Ў МІНСКУ

24 верасня ў Рускім тэатры імя М.Горкага адбылася арганізаваная АТ «Вітт» сустрэча творчага калектыву тэатра з вядомым пісьменнікам-эмігрантам Уладзімірам Вайновічам. Мэтру быў паказаны відэаролік спектакля па «Чонкіне», які ўжо некалькі год з поспехам ідзе на сцэне тэатра. Аўтар знакамітага рамана паведаміў, што абодва выназоднікі аднаго з герояў, селекцыянера Гладышава, ажыццявіліся: у Германіі выведзены славуты «Пукс» (путь к социализму) — гібрыд бульбы з памідорамі, а ў Маскве пачаўся выпуск гарэлкі «Чонкін», пры вытворчасці якой на 1 кг цукру прыпадае 1 кг «патаемных інгрэдыентаў» (спадзяемся, усё ж такі не гною). Адбылася размова па праблемах сучаснай культуры. На думку пісьменніка, Беларусь, Расія ды іншыя посткамуністычныя краіны паступова набліжаюцца па ўсіх напрамках да цывілізацыі Захаду, запазычваючы, перадусім, яе заганы (нізкія ганарары літаратарам, напрыклад). Дарэчы, зараз У.Вайновіч працуе над паўдакументальнай кнігай пра злачынствы КДБ. Аднаго разу савецкія органы бяспекі паспрабавалі атруціць пісьменніка-дысідэнта, а цяпер апраўдваюцца перад ім — маўляў, «у тыя часы ўсё грамадства было атручанае». Вайновіч перакананы, што антысавецкае мастацтва сканае не раней за савецкую рэчаіснасць, канца якой пакуль не бачна. Тым не менш, здаровыя інстынкты ў грамадстве, на думку пісьменніка, мусяць перамагчы. Калектыў тэатра, а таксама кіраўнік СТД А.Дудараў павіншавалі шаноўнага госця з надыходзячым днём нараджэння.

**Ю.Б.**

# ТРАГІЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА



## *(Вытокі і вынікі голаду 1932 — 1933гг. на Беларусі)*

## ПРАЛОГ

*Гэтыя меркаванні выкліканы знаёмствам з пазбаўленымі сантыментаў паказчыкамі развіцця Беларусі за апошнія гады, якія час ад часу падае Дзяржкамстат. Нагадаю, што з-за крызісных з'яў, якія ахапілі ўсе галіны народнай гаспадаркі рэспублікі, у 1992г. у параўнанні з 1990г. у Беларусі нацыянальны даход скараціўся на 13 працэнтаў, вытворчасць прамысловай прадукцыі — на 10, сельскай гаспадаркі — на 22 працэнты. Аналіз становішча леташняга года паказаў, што тэмпы спаду застаюцца яшчэ значнымі. Такі стан матэрыяльнай вытворчасці прывёў да істотнага зніжэння прыросту насельніцтва. Усё гэта я, як гісторык, кваліфікую чарговым пакараннем даверлівага народа палітыкамі.*

*Так-так. Чарговым. Больш ранняе і найбольш жахлівае прыходзіцца на па-свойму круглую дату. 60 гадоў таму, у 1932-1933 гг., на абшарах былога СССР лютаваў масавы голад. Гэта была вяршыня, на якую ўпарта і даволі ўпэўнена караскаліся не адзін год «народы-браты», заваражаныя рухам савецкага паравоза ў камуну. І ў той жа час — суровая плата за тое, што яны, паверыўшы бальшавікам, пайшлі, як казалі, у «апошні і рашучы бой» з усім тым, што перашкаджала паддаць яму пары. Прычым пад даволі зладжаны акампанемент разважанняў дамарослых інтэлектуалаў аб непазбежнасці часовых страт дзеля шчаслівай будучыні... Не паўтарыць бы! Менавіта таму паўстае неабходнасць засяроджвання ўвагі на падзеях, якія яе прадвызначылі.*

## ЛЯ ВЫТОКАЎ

А пачалося ўсё з рэвалюцыйнай ломкі звыклага ладу жыцця ў горадзе і вёсцы на зыходзе другога дзесяцігоддзя бягучага стагоддзя. Гэта значыць, з націску, гаворачы словамі У.І.Леніна, «чырвонагвардзейскай атакі на капітал» (В.И.Ленин. Полн. собр. соч. Т.36. С.177). З дапамогай надзвычайных мер палітыкі ваеннага камунізму (забарона гандлю, харчразвёрстка і інш.) былі створаны даволі спрыяльныя ўмовы таму, каб напаўгалоднае і няўтульнае жыццё, жабрацтва, сялянскія паўстанні набылі паграражальныя памеры для Савецкай улады. З распаўсюджанымі рабочымі хваляваннямі і Кранштацкім паўстаннем яны вымусілі яе перайсці да новай эканамічнай палітыкі (НЭПа).

Супярэчнасці часу знайшлі сваё сумнае адлюстраванне і ў голадзе 1921 — 1922гг., які ахапіў Паволжа, Прыўралле, часткі Паўночнага Каўказа, Украіны і Крыма. Паводле дадзеных А.І.Мікаяна, ад галоднай смерці загінула каля 3 мільёнаў чалавек...

## «УСУР'ЁЗ І НАДОЎГА»?..

Здавалася, галоўныя ахвяры ззаду. Так яно і было... Для шмат каго. Што да правадыра кастрычніцкай рэвалюцыі, дык ён нават пераконваў сваіх паплечнікаў і апанентаў у неабходнасці рабіць гэта «ўсур'ёз і надоўга». І многія з іх верылі ў гэта (не толькі




ў самой краіне, але і па-за яе межамі).

Ва ўмовах нэпа вызначыўся пераход ад рэвалюцыйнага да рэфармісцкага метаду дзеянняў у гаспадарчых пытаннях. Назіраюцца больш-менш цярпімыя адносіны ўлады да ўмоў развіцця змешанай эканомікі, рынкавых адносін. Гэта дало моцны імпульс эканамічнаму развіццю і даволі хуткаму выпраўленню амаль безнадзейнага становішча. У жыцці вёскі ўзрастала вага моцных, развітых гаспадарак. Хаця ў параўнанні з даваенным часам у эканамічных адносінах сярэдняя і верхняя групы сялянства сталі больш слабымі. Даваў адчуць сябе працэс драблення гаспадарак, памяншэння іх памераў. З другога боку, у вёсцы адбываўся рост занятасці вытворчых рэсурсаў, паляпшалася іх выкарыстанне. Павялічвалася колькасць парабкаў у сялянскіх гаспадарках і рабочых-адыходнікаў.

Гэты працэс у пэўнай ступені меў прагрэсіўны характар (у плане ўздыму вытворчасці), але ён пагражаў захаванню асноў таго ладу, які ўсталяваўся ў краіне пасля 1917 года. Справа ў тым, што ўмацаванне і развіццё гаспадарак прадпрымальніцкага тыпу не адпавядала інтарэсам прыхільнікаў «формулы нецярплівасці» — лозунгу «іншага не дадзена!» (апрача «адзіна вернага» курсу на нярынкавую — «нетаварную»— адзяржаўленую, дырэктыўную, эканамічную мадэль). Становішча абцяжарвалася, як тады многія лічылі, вялікай розніцай (прыкладна ў 4-5 разоў) ва ўзроўні «заможнасці» (прыбыткаў) сялянскіх гаспадарак. І гэта ў шмат каго выклікала пачуццё насцярожанасці, а то і пратэсту. Асабліва сярод тых, хто з'яўляўся прыхільнікам «рэвалюцыйнага гвалту», не прызнаваў факта мноства гаспадарчых укладаў, механізмаў гаспадарчага рэгулявання. Тым больш, што многія з іх такімі падыходамі валодалі з часоў грамадзянскай вайны і дэзарыентавалі грамадскую свядомасць папулісцкімі спасылкамі на «буржуазнае перараджэнства». Таму канцэпцыя мірнага стварэння сацыяльных сіл, якія супрацоўнічаюць, трывала ў жыццё не ўвайшла.

Пачатак мэтанакіраванага перагляду яе быў пакладзены ў час пераходу краіны да індустрыялізацыі. Істотную ролю тут адыгралі нарастаючыя класава-абмежавальныя меры ў зямельнай, падатковай і гандлёвай палітыцы. У той час, як шмат беднякоў вызвалялася, так званыя заможныя і кулацкія гаспадаркі абкладаліся ўзмоцненым падаткам. У 1927 годзе кулакі Беларусі, дзякуючы асобаму падатковаму абкладанню, плацілі падаткаў на 50 працэнтаў больш, чым на год раней. Тым самым і без таго недастаткова свабодныя і стабільныя рынкавыя адносіны (паміж дзяржавай і сялянствам) абмяжоўваліся. А гэта непазбежна вяло да ўсталявання спосабаў ухілення ад рэальных праблем, нарошчвання тэмпаў індустрыялізацыі сродкамі эканамічнай дыктатуры на сялянскія гаспадаркі. Час пацвердзіў памылковасць гэтага ўяўлення, хаця і сёння мы сустракаемся з аддаленымі вынікамі яго.

Тым не менш пакуль пашыраліся рамкі нэпа, дробнатаварная сялянская гаспадарка нарошчвала выкарыстанне сваіх рэзерваў. Да 1925г. аграрны сектар БССР, нягледзячы на вялікі заняпад за час войнаў і рэвалюцыі (яго прадукцыя да 1921г. скарацілася на 25 — 30 працэнтаў), у асноўным быў аднаўлены. Асабліва значныя поспехі назіраліся ў жывёлагадоўлі. Дзякуючы паляпшэнню агульнага дабрабыту дзённы рацыён спажывання калорый сельскім насельніцтвам за 1922 — 1926 гады ўзрос амаль на 22 працэнты. Уздым працягваўся і ў наступныя гады. Хаця і не так інтэнсіўна.

Аднак нельга не адзначыць: дасягнуты даваенны ўзровень задавальняў мінімальныя патрэбы людзей і гаспадаркі. Адначасова з развіццём назіраліся і яўныя крызісныя з'явы, абумоўленыя не толькі палітычнай сістэмай, але і свядомай дзейнасцю кіруючага савецкага апарату па абмежаванні гаспадарчай ініцыятывы самастойных вытворцаў. Тэмпы нарошчвання вытворчасці былі няўстойлівыя. Больш таго, назіралася зніжэнне збору збожжавых і тэхнічных культур з адзінкі плошчы. Рост прадукцыі жывёлагадоўлі абумоўліваўся пераважна рухам статку. Да таго ж таварнасць прадукцыі сельскай гаспадаркі прыкладна ў тры разы была ніжэйшай параўнальна з дарэвалюцыйнай. Нядзіва, бо, паводле звестак Наркамзема БССР, 95,5 працэнта сялянскіх гаспадарак не маглі быць ні тварнымі, ні нават спажываючымі, што было абумоўлена агульным ростам колькасці маламоцных гаспадарак (пры скарачэнні буйных). Іншымі словамі, апрача сябе адзін працоўны земляроб «карміў» толькі аднаго чалавека.

Істотна ніжэйшым заставаўся і памер тавараабароту Беларусі па сельскагаспадарчых прадуктах на абшарах былой Расійскай імперыі. У рэшце рэшт частка гаспадарак не зводзіла свае прыбыткі з выдаткамі — ураджаю не хапала як на насенне, так і на харчаванне. Калі ўлічыць параўнальна абмежаваныя магчымасці земляробчай часткі насельніцтва ў набыцці сельскагаспадарчых тавараў, іх вострыя недахоп на рынку, то невыпадкова, што сярод сялян шэрагу населеных пунктаў Беларусі мелі месца не толькі працяглае недаяданне, але і звязаныя з ім смяротныя выпадкі. Так, у пачатку лета 1927 года з Чабатовіцкага сельсавета Гомельскага раёна паведамлялася, што насельнікі некалькіх пунктаў па два тыдні не бачаць хлеба, некаторыя паміраюць галоднаю смерцю. У Аршанскай акрузе чакалася вялікая смяротнасць, бо людзі 35 тысяч бядняцкіх гаспадарак з-за адсутнасці хлеба спажывалі мякіну, віку.

У горадзе таксама было цяжка, аб чым сведчылі вялікія чэргі дя гандлёвых кропак, пераход краіны ў 1928г. да размеркавання сельскагаспадарчых прадуктаў па картках. Між тым сялянства, у тым ліку яго самыя бедныя пласты, па сутнасці, не прымала вытворчую кааперацыю з абагуленнем сродкаў вытворчасці (у 1928г. на калгасы БССР прыпадала да аднаго працэнта сялянскіх гаспадарак і столькі ж валавой прадукцыі). Хаця апошняя карысталася прыярытэтнай увагай дзяржавы.

Сукупнасць усіх гэтых фактараў патрабавала ўзважанага падыходу не тое што да змены накіраванасці эканамічнай палітыкі, але і ўдасканалення прынятай.

## НАБЛІЖЭННЕ ГРЫМОТАЎ

Рэчаіснасць, аднак, давала іншыя прыклады. Маецца на ўвазе не толькі паварот да насаджэння каманднa-загадных метадаў кіравання часоў «ваеннага камунізму», але і да распальвання класавай нянавісці, стварэння ўмоў для пераходу ад грамадзянскага міру да грамадзянскай вайны.

Тут, як кажуць, зусім «дах паехаў». Улада ўсё больш настойліва імкнулася адолець цяжкасці і перашкоды не розумам і аргументамі, а сілай: барацьбой нібыта са спробамі кулацтва прадаваць прадукцыю па рыначных цэнах як памкненнямі «арганізаваць голад», сарваць тэмпы распачатай індустрыялізацыі.

У выніку забароны свабоднага гандлю збожжам толькі ў студзенілютым 1928г. у сялян Беларусі было адабрана каля 70 тысяч пудоў хлеба. У той час,як, паводле дадзеных статыстыкі, у большасці сялян запасы не перавышалі неабходных страхавых фондаў, нарыхтоўкі прадуктаў па цвёрдых дзяржаўных цэнах імкліва ўзрасталі. У 1928-1929гг., як і ў 1927-28гг., хлебапрадуктаў у рэспубліцы было нарыхтавана ў 3,5 раза больш, чым у 1926-1927гг.

Дзякуючы ўзрастаючаму падаткаабкладанню і насіллю план хлебанарыхтовак 1929-30 года быў выкананы Беларуссю да 6 лістапада 1929г. Тым не менш напружанне ў харчовым забеспячэнні не змяншалася. Пашыралася кола нарміраваных тавараў, асабліва сельскагаспадарчага паходжання. Яны размяркоўваліся сярод насельніцтва на аснове дыферэнцыраваных умоў.

У сваю чаргу вёска пачала губляць стараннага селяніна. Да таго ж пашырэнне практыкі прымянення надзвычайных мер, захапленне сілай, а не розумам прымушалі яго думаць не столькі пра раллю, колькі пра самаабарону...

Аднак улада, каб як мага хутчэй вырашыць задачы індустрыялізацыі, працягвала наступ на сялянства. Праўда, пад прыкрыццём рэалізацыі «курсу на калектывізацыю», прынятага ў 1927 годзе на XV з'ездзе ВКП(б). Гэта была канчатковая адмова ад цвярозай ацэнкі рэчаіснасці, гнуткай рэакцыі на змяненне абставін. Пошук адважных рэальных рашэнняў замяніўся свербам адміністравання. З восені 1929г. разгарнулася, як кажуць навукоўцы, забяганне наперад, прымусовае насаджэнне калгасаў, якое суправаджалася чарговымі рэпрэсіямі. Ахвярамі «чырвонага тэрору», механічна перанесенага ў новыя ўмовы, ізноў сталі шырокія масы працоўных. Актыўнае прымяненне антыгуманнага па метадах і сродках уздзеяння заканадаўства хутка зламала адчайнае супраціўленне сялян. Арганізатарамі «вакханаліі ўлады» не прымалася ў разлік тое, што не ідэя авалодала масамі, а масы ідэяй.

І не дзіва, што перад прымусовым уступленнем у калгас «цэлыя вёскі напалову знішчалі жывёлу, насенне, кармы...» Цынічна, але справядліва сказаў Сярго Арджанікідзе ў лютым 1930г.: «Мужык вырашыў хоць напаследак з'есці курачку». Між тым «пір падчас чумы» ўскладняў і без таго цяжкае жыццё. У такіх умовах разлічваць на атрыманне ў кароткі тэрмін выгады ад калектыўнай працы (на што нацэльвалі і дырэктывы органаў улады, і прамовы партыйна-дзяржаўных лідэраў) не прыходзілася. Адначасова яны з'яўляліся сур'ёзным прадвесцем сацыяльна-эканамічнай катастрофы, якая набліжалася, яе

пагражальным сігналам.

Так яно і атрымалася. Справа ў тым, што неўтаймаванасць «ашалелых д'яблаў» у вырошчванні «горада-сада», набіраючы новыя абароты, прадвызначыла не толькі разбурэнне былога сялянскага ўкладу, але і абяскровіла вялікую колькасць сялянскіх гаспадарак. У спехам арганізаваных калгасах і саўгасах панавала поўнае бязладдзе. Многім з іх пагражаў развал, нягледзячы на прынятыя жорсткія законы па іх абароне. Таму ўзрастала колькасць абяздоленых і жабракоў. Чэргі нават за хлебам сталі звычайнай з'явай.

Выдаткі ад «сілавога» рашэння сацыяльна-эканамічных праблем мала саступалі стратам за перыяд імперыялістычнай і грамадзянскіх войнаў. Нельга не звярнуць увагі і на тое, што прычыны іх у многім супадалі. У цэлым валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі ў першую пяцігодку зменшылася (у супастаўных цэнах афіцыйнай статыстыкі) не менш чым на 26 працэнтаў. Гэта сведчыла пра абвастрэнне крызісных з'яў у краіне, абумоўленых ударнай калектывізацыяй, наступленнем сацыялізму шырокім фронтам.

## ПАНАВАННЕ НАВАЛЬНІЦЫ

Больш таго. З восені 1932г. рэзка пагоршылася харчовае становішча. Прычым не столькі з-за недароду, колькі з-за далейшага развіцця неабдуманага характару рэквізіцыйных нарыхтовак па прынцыпе — забраць усё, да зерня ў вытворцаў у засекі дзяржавы ў імя вялікай мэты. Не выпадкова пры скарачэнні тэмпаў павелічэння валавой прадукцыі рост нарыхтовак працягваўся. Дзякуючы «падсцёбванню» калгаснікі і некалгаснікі рэспублікі за дзве апошнія дэкады 1932г. выканалі больш паловы плана нарыхтовак, перасягнуўшы яго на 106 працэнтаў. А ў засеках свірнаў вельмі многіх гаспадарак тым часам было зусім бедна. Так званыя «сабатажнікі» нарыхтовак на падставе надзвычайных мер высылаліся ў Сібір.

Завяршылася ўсё гэта самым жорсткім у гісторыі СССР голадам 1932 — 1933гг. Навальнічныя хмары, як кажуць, збіраліся доўга, але сама навальніца разгарнулася цяпер. Гэта была кульмінацыя вялікай трагедыі. Ім былі ахоплены ў першую чаргу збожжавыя раёны: Украіна, Паўночны Каўказ, Ніжняя і Сярэдняя Волга, Паўднёвы Урал, Казахстан. Там выміралі не толькі сем'і, але і цэлыя паселішчы. Смерць стала калектыўнай, звыклай. Голад даводзіў людзей да людаедства. Як адзначаў Сталін, у краіне было ахоплена голадам 25-30 мільёнаў чалавек. Бедства набыло памеры катастрофы. У вярхах, аднак, не нудзіліся. Калі «выдаткі» пачатку 20-х гадоў шмат у чым адносіліся імі да вынікаў дзеянняў крывапжэрных імперыялістаў, то цяпер — сялян, у тым ліку калгаснікаў. Яны, маўляў, недаацэньвалі неабходнасць новай фазы рэвалюцыйных пераўтварэнняў ва ўсім укладзе жыцця.

Не абмінуў голад і Беларусь. Асабліва напружаным харчовае становішча было ў паўднёва-ўсходніх раёнах. Рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця прывяло да таго, што з абедзеннага стала практычна зніклі традыцыйныя прадукты харчавання. Людзі часам елі тое, што і жывёле не скармлівалася. Многія пласты грамадства перайшлі на элементарнае збіральніцтва (траў, лісцця, грыбоў, жалудоў і г.д.), спажывалі адыходы вытворчасці (мякіна, патака, мёрзлая або гнілая бульба і г.д.).

Паводле ўспамінаў былой калгасніцы калгаса «Перхурава» Старасельскага сельсавета Дзяржынскага раёна Я.Л.Дзянскевіч, «крапіву і асаку, якія выраслалі ля платоў, людзі з'ядалі. Прывозімыя... бацькам з Мінска хлебныя скарыначкі елі з задавальненнем (якія, праўда, ён не заўсёды мог дастаць)». На фоне агульнага збяднення просьбы жабракоў, колькасць якіх узрасла, далёка не заўсёды маглі быць пачутыя. «Той, хто, здавалася, павінен быў даваць, сам не меў кавалка хлеба... Бо гадавы заробак калгасніка змяшчаўся ў торбачцы за плячыма», — не без горычы апавядае тая ж сведка.

Успамінаецца характэрны ў гэтых адносінах і эпізод з дакументальнай аповесці беларускага пісьменніка Ф.Аляхновіча «У кіпцюрах ГПУ», падзеі якога адбываюцца ў памяшканні чыгуначнага ГПУ Мінска ў верасні 1933 года. Вязень, развітваючыся з маці, перадае ёй каля кілаграма чорнага хлеба, які атрымаў на дарогу ў Бутырках (турма ў Маскве). Прымаючы дрыжачымі рукамі гасцінец, яна, дзякуючы, узбуджана гаворыць: «Сынок мой! Гэта ж вялікі дар... Мы ўжо даўно не мелі столькі хлеба!»

Аб вострым харчовым становішчы ў рэспубліцы паведамляе Э.Шабуня, сястра вядомага грамадскага і культурнага дзеяча А.Луцкевіча, якая жыла ў Мінску. У лістах 1932 — 1933гг. да брата і сястры за мяжу яна скардзілася на дрэннае харчаванне сям'і, немагчымасць набыць мукі (хіба што ў «торгсине» — краме па абмену каштоўнасцей на тавары першай неабходнасці), высокія цэны на харчы, спадзеючыся на іх дапамогу. У Мсціслаўскім раёне, паводле ўспамінаў відавочцы, з-за недаядання сяляне пухлі.

Мелі месца і смяротныя зыходы ад знясілення. «Неймаверна цяжкае становішча з харчамі» ў калгасах Гомельскага раёна (большасць іх, як і калгаснікаў, не мела ніякіх прадуктаў харчавання) выклікала знясільванне «вялікай колькасці» людзей. Да лета 1933 года ў трох калгасах ад голаду памерла 9 чалавек. У сярэдзіне 1933г. у 9 сельсаветах Ельскага і Нараўлянскага раёнаў галадалі каля 500 сялянскіх сем'яў. З іх 130 чалавек памерлі. Не менш сур'ёзным становішча было і ў іншых раёнах рэспублікі. Лёс народа знаходзіўся на мяжы вымірання. І ў той жа час, вядома, у беларускай вёсцы знайшла прытулак і ежу немалая колькасць галадаючых бежанцаў з Украіны.

Афіцыйная статыстыка не ўтрымлівае звестак пра ахвяраў галоднай смерці. Таму называюцца самыя розныя лічбы загінуўшых па СССР — ад трох да дзесяці мільёнаў. І гэта пры наяўнасці 45 мільёнаў цэнтнераў дзяржаўных харчовых запасаў, у тым ліку на выпадак вайны.

Дарэчы, у 1932 годзе ў Заходнюю Еўропу было вывезена з СССР 18,1 мільёна цэнтнераў збожжа. А ў самым галодным 1933 годзе — каля 10 мільёнаў. «Голад жа, — паводле аргументаваных назіранняў англійскага гісторыка Р.Конквеста, — не быў дастаткова важнай прычынай для выкарыстання гэтых рэсурсаў».

Спраўды, ад насілля, як трапна заўважыў англійскі гісторык А.Кёстлер: «сцяг Рэвалюцыі задубеў ад крыві», якая аддавалася народам па жаданню таталітарызму ў імя абароны светлага будучага». Здаецца, лепш не скажаш.

Па колькасці людскіх і матэрыяльных страт гэта была неаб'яўленая грамадзянская вайна. Ахвяраў аказалася так шмат, што дасягнуты вынік на шляху сацыяльнага эксперымента можна назваць піравым. Зразумела, не апошнюю ролю ў ім адыгрывала і барацьба рэжыму з рыначнымі адносінамі, якія склаліся за гады нэпа, дзеянні яго па нейтралізацыі нястачамі і нават голадам тых, хто нібыта недаацэньваў пераваг шчаслівага жыцця ў «горадзе-садзе». Ствараемая на вёсцы так званая адзяржаўленая грамадская ўласнасць дазваляла органам улады дыктаваць земляробам не толькі дзе, калі і колькі сеяць, але і распараджацца выробленай імі прадукцыяй. І гэта пры тым, што па аплаце працы калгаснікі належалі да найбольш нізкааплатных катэгорый насельніцтва. Прычым на той час яны зарплату ў грашовым выражэнні нагул амаль не атрымлівалі. А калі сталі атрымліваць грашыма, то іх заробак складаў не больш дзвюх трэціх ад сярэдняга па народнай гаспадарцы. І да сённяшняга дня гэтая «традыцыя» захоўваецца.

* * *

Трагічныя перамены, якія перажыла вёска на вачах аднаго пакалення, не маглі, вядома, не адбіцца на духоўных і маральных сілах народа. Гэта становіцца тым больш відавочным, калі прыняць да ўвагі разбураны эканамічны механізм, не адноўлены і да сённяшняга дня, згублены прэстыж сялянскай працы. Але гэта пытанні, вартыя самастойнага асэнсавання.

**Анатоль САРОКІН,**
**доктар гістарычных навук,**
**вядучы навуковы супрацоўнік АН Беларусі.**



"Толькі цесны непарыўны саюз рабочых і сялян выратуе Расію ад разрухі і голаду".

Плакат 1920 г.

## «ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ХРАМЫ»

Аргкамітэт Міжнароднага конкурсу «Чарнобыльскія Храмы» звяртае ўвагу шаноўнага спадарства да просьбы грамадскіх арганізацый Украінскага Палесся дапамагчы ў пошуку праектаў новых Храмаў. Храм аднаўляе духоўную повязь з зямлёй продкаў, падтрымлівае ў людзях, жыццё якіх пакалечана Чарнобылем, надзею вытрымаць цяжкія выпрабаванні. Мы лічым, што ў нашых умовах сучаснае храмавае будаўніцтва патрабуе адпаведных філасофскіх, эстэтычных, архітэктурных ідэй. На сродкі добраахвотных ахвяраванняў Аргкамітэт абвяшчае Міжнародны конкурс на праекты Храмаў і на праект канцэпцыі ўшанавання памяці чарнобыльскіх ахвяраў.

Мы зыходзім з таго, што гэты конкурс дасць магчымасць творцам вольна і шчыра выявіць сваё бачанне гэтай праблемы.

### *УМОВЫ КОНКУРСУ:*

Тэматычныя рамкі конкурсу не абмяжоўваюць яго ўдзельнікаў у выбары шляхоў дасягнення пастаўленай мэты. Праект можа ўтрымліваць да дзесяці старонак машынапіснага тэксту абгрунтавання, а таксама малюнкі і макеты.

Плануецца выданне альбомаў праектаў і правядзенне выстаў і іншых мерапрыемстваў, накіраваных на азнаямленне міжнароднай грамадскасці з вынікамі конкурсу. Аргкамітэт конкурсу лічыць мэтазгодным такім шляхам сабраць сродкі для далейшай дапрацоўкі лепшых праектаў.

Да конкурсу запрашаюцца архітэктары, мастакі і творчыя калектывы.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе мусяць быць пададзеныя да 1 лістапада 1993 года. У заяўцы трэба пазначыць прозвішча, узрост, прафесію, хатні адрас, тэлефон.

Праекты з аўтарскім дэвізам неабходна падаць у Аргкамітэт да 1 сакавіка 1994 года.

Для пераможцаў конкурсу Аргкамітэтам вызначаны тры прэміі. Усе працы, якія будуць экспанавацца на выставе праектаў, увойдуць у альбом «Чарнобыльскія Храмы».

Умовы далейшай распрацоўкі праектаў будуць вызначаны пасля выбару лепшых з іх.

**Аргкамітэт.**

Украіна
**тэл. (044) 432-14-22 416-60-53**
**факс (044) 228-72-72 Севекіна**
**254075 Украіна, Кіеў 75, а/с 1.**

## СЭРЦАМ І ДУШОЙ

Сардэчна дзякую Вам за акрэсьлена бескампрамісную падтрымку дэмакратычнага шляху на Беларусі! Разумею, што такая пазіцыя патрабуе сапраўднай грамадзянскай мужнасьці, бо «Культура», усё ж, — афіцыйнае выданьне па сваёй фінансавай залежнасьці ад «улад». Асаблівая мая падзяка спадару Максіму Гілеўскаму за яго выдатныя артыкулы-аналізы!

Такая пазіцыя «Культуры» ня толькі ўзнаўляе жыцьцёвыя сілы (прынамсі, мае), але й прыносіць адчуваньне шчасьця ўсьведамленьня духовай еднасьці, роднаснасьці многіх таленавітых людзей.

Апошнім часам найбольш уразілі мяне дзьве зьявы: публікацыя каштоўнейшага дакладу Зянона Пазьняка (гэта ж — сьведчаньне канчатковага дэмакратычнага выбару «Культуры»).

Другое — сшыткі «ЗНО»! Патрэба такога філязофскага выданьня — жыцьцёвая! А таленавітыя асобы Валянціна Акудовіча і маіх любімых Алеся Разанава ды Ігара Бабкова на чале «ЗНО» — гэта ўжо трывалы падмурак плённасьці такой справы.

Толькі, на маю думку, дарэмна спадар Акудовіч пачынае з «дыялёга» з Богам (на старонках ЛІМа) — сьпярша знойдзем шлях да Яго! Тут, мне здаецца, «Культура» робіць залішні наклон у бок «прапаганды» паганства. Так, напэўна, там нашыя вытокі, і мусім добра іх ведаць ды шанаваць. Але ж шлях наперад, выйсьце зь бездані — хрысьціянства; калісьці збочылі з гэтага шляху — і вось на краю пагібелі! Цяпер узнаўленьне Уніі — галоўнае. Ці ж ня так? Між тым намі ўсё яшчэ валадарыць «бес атэізму», самаўпэўненага ўяўленьня аб быццам незалежнасьці лёсу асабістага і народнага ад Творцы нашага...

Вось чаму так патрэбна публікацыя артыкула Альберта Вейніка ў N 24! Чытаю-перачытваю ды тлумачу сабе і сябрам... Ці нельга даць матэрыял пра самога спадара А.Вейніка? Чаму ён — член-кар. АН Беларусі, чаму менавіта «НІТ» выдала яго твор?

Пералічыць усё, што ўражвае на старонках «Культуры», немагчыма ў адным лісьце... Вялікая ўдзячнасьць за «Бялуна»; за артыкул Ул.Емяльянчыка пра Тадэвуша Рэйтана, які стаў цяпер дарагім сэрцу; увогуле за гісторыка-культурныя артыкулы сталага інтэлектуальнага ўзроўню. Чакаю абяцаных матэрыялаў пра 1794 год... Ды й шмат чаго добрага чакаю ад «Культуры», якую актыўна прапагандую (можа, й на «тарашкевіцу» асьмеліцеся?).

**Клаўдзія АНІСАВА,**
**мастацтвазнаўца.**

г. Мінск.

**P.S.** *Калі ласка, не карыстайцеся саўкова-абразьлівым слоўцам «пэнсіянер»! Так, для кожнага з нас прыходзіць час, калі мы ўжо ня маем іншых сродкаў для побыту. Але ж ці зьмяняецца наша існасьць? Прынамсі, я спадзяюся, што ў свае 72 гады застаюся і чалавекам, і мастацтвазнаўцай, хаця «службы» ня маю... Жыву напружана. Маю гурток па гісторыі Беларусі ў дзіцячым садку, займаюся з двума падлеткамі нашай мовай ды культурай, вывучаю Біблію з сябрамі... Усім сэрцам і душой — з нашымі хлопцамі з БНФ, БЗВ; чым магу, дапамагаю... Так што не скідвайце з актыву тых, хто заўсёды разам з Вамі!*

# ЯК НАС ЦЯПЕР НАЗЫВАЦЬ?

**Некалі ў вёсцы было правілам вітацца нават і з незнаёмым чалавекам: ідзе дзядзька па вуліцы, сустрэне нетутэйшага — абавязкова скажа: «Добры дзень»,ды яшчэ і шапку прыўздыме. Здароўкаўся з незнаёмымі і гараджанін, хай не на вуліцы, дзе прахожых безліч, але калі чалавек заходзіў у ягоную кантору ці ў пачакальню да доктара, дык вітаўся з прысутнымі там людзьмі агульным паклонам. І яму ветліва ківалі ў адказ. Цяпер жа паспрабуй прывітаць незнаёмага, пакланіся чарзе ў пачакальні — на цябе паглядзяць, як на дзівака ці нават як на «чокнутага». Ды што там пачакальня! Нават з суседзямі па пад'ездзе, па лесвічнай пляцоўцы часам не здароўкаюцца. І гэта — толькі адна з прыкмет поўнай страты культуры паводзін, культуры стасункаў паміж людзьмі, адна з праяў нашага «савецкага менталітэту».**

Ці можна здзіўляцца, абурацца, калі мы даўно ўжо не ведаем нават і таго, як нам адзін да аднаго звяртацца, і карыстаемся «біялагічным» зваротам: мужчына! жанчына! Нібыта дробязь, аднак за дробяззю гэтай стаіць татальная абязлічка ўсіх і кожнага — не грамадзяне, не спадары, не «пані і паны», а натоўп істот мужчынскага і жаночага полу. Але ж па полу ўмеюць адрозніваць адзін аднаго і малпы, ды і ўсе жывёлы. А людзі ўсё ж павінны карыстацца чалавечым падыходам да бліжняга, для гэтага ім дадзена мова з яе велізарным арсеналам зваротаў. Здавалася б, неаспрэчным з'яўляецца факт, што менавіта розныя формы зваротаў да розных людзей — гэта першае, што з дзяцінства ўваходзіць у чалавека і выкарыстоўваецца ім на працягу ўсяго жыцця, аднак жа!.. Сапраўды, грамадства павінна было страціць само сябе, калі задавальнялася безасабовым, прымітыўным зваротам «па полу», калі абыходзілася без моўнага этыкету!..

У культуры — ва ўсёй яе сукупнасці — няма дробязей, і, адраджаючы культуру Бацькаўшчыны ў сэнсе, так бы мовіць, глабальным, мы павінны клапаціцца і аб культуры побыту, культуры звычайных, штодзённых стасункаў паміж сабою. І моўны этыкет, формы паважлівых, тактоўных зваротаў адзін да аднаго займаюць тут не апошняе месца.

А пачынаецца ўсё з сям'і, з дзіцячага садка, са школы. Пачынаецца з павагі да дзіцяці як да асобы. Так, так. Бо ў падсвядомасці дзіцяці непазбежна застануцца грубыя, зняважлівыя, раздражнёныя словы маці альбо бацькі над калыскай, калі дзіця енчыць, плача: «Сціхні, пісьля, каб табе заняло!». А які «моўны этыкет» засвоіць сын ці дачка, калі бацька звяртаецца да іх тонам паганятага: «Гэй, збегай у краму!», калі пярэчанні дачкі ці сына абрываюцца зняважлівым: «Маўчы, шчанюк!», «Не вучы бацьку, шчанючка!», калі бацька толькі зрэдку назаве сына Ванем ці Ваняткай, а дачку Маняй, Манечкай, а звычайна — Ванька ды Манька... Між тым псіхолагі заўважылі, што людзі не толькі любяць сваё імя, але і ганарацца ім. Імя чалавека, пачынаючы з дзяцінства, з'яўляецца для яго самым зразумелым і самым важным словам мовы. Нездарма ж нават разумова адсталыя, так званыя дэфектыўныя дзеці ведаюць сваё імя, а, значыць, усведамляюць сваё «я», атаясамленае з імем, са словам. Таму калі мы ставімся да імя чалавека з належнай увагай і павагай — мы даем яму магчымасць адчуць сваю значнасць, сваю годнасць. Невыпадкова некалі ў гімназіях настаўнік нават да вучняў першага класа звяртаўся на «вы» і называў поўнае імя таго, да каго звяртаўся, а калі звяртаўся па прозвішчу, дык абавязкова са словам «господин». Так з малога, з «дробязі» ўсталёўваліся, рабіліся нормай паводзін правілы моўнага этыкету, — маленькі чалавек, падлетак, якога паважалі, непрыкметна для сябе самога прывучаўся паважаць іншых.

Вядома, і ў часы нашых прадзедаў хапала хамства, бескультур'я, народжанага сацыяльнай няроўнасцю, непісьменнасцю, адсталасцю, аднак у асяроддзі інтэлігенцыі, у асяроддзі людзей адукаваных хамства амаль не было, ды і ў народзе яно стрымлівалася традыцыяй — сялянскай, рэлігійнай, саслоўнай. А ў наш час? І сёння, і ў мінулыя савецкія дзесяцігоддзі? Так, на працягу гэтых дзесяцігоддзяў мы зрабілі мільёны людзей адукаванымі, але не здолелі зрабіць іх і культурнымі, інтэлігентнымі. Ды ці магло быць інакш у краіне, у якой з «лёгкай рукі» самога Уладзіміра Ільіча слова «інтэлігент» зрабілася лаянкай, бо да гэтага слова правадыр амаль заўсёды дабаўляў слова «сволочь» — «интеллигентская сволочь», «интеллигентщина», «гнилые интеллигенты»... А потым Сталін з яго не толькі жорсткасцю, але і з грубасцю, распярэзаным хамствам! І пайшло, і пайшло — да эры Хрушчова, які ледзь не мацюкаўся ў сваіх прамовах, —"мы вам пакажам кузькіну маць!", які «тыкаў» людзям на шмат гадоў старэйшым за яго, які на пасяджэнні ААН мог зняць з нагі чаравік і стукнуць ім па галаве ненавіснага прадстаўніка адной з краін НАТО. І яшчэ зусім нядаўна ўсім нам «тыкалі» партыйныя бонзы, і нават Міхаіл Гарбачоў, які ўзяўся «аднавіць усе агульначалавечыя каштоўнасці», таксама «тыкаў» сваім падначаленым і груба, зняважліва абрываў сівенькага, далікатнага, «безнадзейнага інтэлігента» — Андрэя Дзмітравіча Сахарава...

Дык ці не магло гэта не накласці адбітак грубасці, зняважлівасці, хамства, мужланскай неінтэлігентнасці на ўсё грамадства? З гэтага нам таксама трэба выкараскваццa з не меншымі намаганнямі, чым намаганні, якія прыкладаюцца, каб выйсці з эканамічнага крызісу. Думаю, што людзям культурным, выхаваным, людзям, якія паважаюць адзін аднаго, лягчэй было б даць рады крызісу, яны б не лаяліся ў парламентах, як базарныя цёткі, а ўмелі б слухаць адзін аднаго, умелі б раіцца...

Ад моўнага этыкету — у вялікую палітыку! Якая тут сувязь? А мо прамая? Мо і сапраўды ўсё пачынаецца са слова, якое ўрэшце і адрознівае нас ад «братоў нашых меншых»? Мо наспеў ужо час знайсці нам для сябе нейкае вызначэнне, неяк называцца? Не проста «мужчынамі» і «жанчынамі», а спадарамі і спадарынямі? Мо гэта надзённая неабходнасць — зрабіць арганічнымі для сябе такія звароты, як «калі ласка», «прабачце», «даруйце»? Мо варта нават і незнаёмаму чалавеку сказаць: «Дзень добры!»?

**Рэгіна ДЗМІТРЫЕВА.**

КУЛЬТУРА І РЫНАК

# ПАРКІ МУСЯЦЬ ВЫЖЫЦЬ

Пра паркі культуры і адпачынку пішуць зрэдку. Часам гэта невялічкія фотарэпартажы са святаў і гулянняў, часцей — крытычныя нататкі або артыкулы пра тое, што той альбо іншы парк сёння па змесце работы, абсталяванасці не адпавядае сучасным патрабаванням.

Сапраўды, у якойсьці ступені гэтыя папрокі ў адрас паркаў як установаў слушныя. Але ж хацелася б паспрабаваць раскрыць праблемы, з-за якіх асяродкі культуры і адпачынку апынуліся ў гаротным стане.

У Мінскай вобласці ўсяго пяць паркаў культуры і адпачынку. Сярод іх — старэйшы ў вобласці Барысаўскі парк, што працуе 66 гадоў, Маладзечанскі, які быў адкрыты 44 гады таму, Слуцкі, якому 40 гадоў, дваццацігадовы Вілейскі і самы малады — пяцігадовы Жодзінскі. На жаль, у 1992 годзе спынілася дзейнасць парка культуры і адпачынку ў Салігорску. Ён праіснаваў меней за паўгода...

Такая ж пагроза навісла і над іншымі паркамі.

Іх фінансава-эканамічнае становішча пагаршаецца штодня. І гэта адбываецца нягледзячы на тое, што ўсімі магчымымі шляхамі паркі самі зарабляюць грошы, аказваючы розныя платныя паслугі наведнікам. Але нават у гэты летні сезон прыбыткі ўстановаў культуры ў 11 мільёнаў 842 тысячы рублёў не здолелі перакрыць выдаткі ў 12 мільёнаў 167 тысяч рублёў. А значыць, практычна сёння паркі не ў стане самастойна развівацца.

Як жа выйсці з цяжкага становішча?

Апошнім часам набалелыя пытанні не сыходзілі з парадку дня абласнога савета дырэктараў паркаў культуры і адпачынку Міншчыны. Разглядаліся яны і на рэспубліканскай дзелавой сустрэчы, што была наладжана ў красавіку Міністэрствам культуры і ўпраўленнем культуры Мінаблвыканкама на базе Барысаўскага парка.

Аказалася, што ва ўстановах абласных цэнтраў, такіх, як Брэст, Віцебск, Гомель, і гарадоў меншага маштабу — Вілейцы, Слуцку, Маладзечне, Жодзіне, Барысаве — практычна аднолькавыя праблемы і цяжкасці. Галоўная з іх — паркі культуры і адпачынку, якія з'яўляюцца па змесце работы ўстановамі культуры, аднесены да гасразліковых прадпрыемстваў і вымушаны плаціць усе прадугледжаныя для іх законам падаткі як у мясцовы, так і ў рэспубліканскі бюджэты. Апроч таго, трэба самім зарабляць грошы на зарплату супрацоўнікам, аплочваць узрастаючыя цэны на камунальныя паслугі — ацяпленне, электрычную энергію і несці іншыя выдаткі. А вось зарабіць гэтыя сродкі вельмі складана, бо, вядома, асноўныя наведнікі паркаў — дзеці, падлеткі, пенсіянеры.

Кошт адпачынку ў парку расце. Сёння проста несуадносныя цэны на білеты — калісьці за 10-30 капеек можна было пакатацца на атракцыёне, зараз жа гэтая «асалода» абыходзіцца ў 40-70 рублёў і вышэй.

Новыя атракцыёны, цэны на якія перавалілі ўжо за многія мільёны, увогуле немагчыма набыць без дапамогі гарадскіх улад. Выканкамы дапамагаюць набыць для паркаў сучаснае абсталяванне, падтрымліваць садовапаркавую гаспадарку ў Жодзіне, Вілейцы, Маладзечне. Аднак, нягледзячы на ўсе намаганні, паркі ледзьве трымаюцца.

Якое ж выйсце? Як захаваць паркі культуры і адпачынку з назапашанымі шматгадовымі традыцыямі?

Выйсце ёсць!

На рэспубліканскай сустрэчы было прапанавана некалькі рашэнняў па выратаванні паркаў. Гэта — прыцягненне спонсараў, адкрыццё на базе паркаў кааператываў, малых прадпрыемстваў, формы гаспадарання якіх адпавядаюць патрабаванням наведнікаў і задачам установаў культуры. Напрыклад, у Барысаўскім парку, дзе ёсць кафэ, спартыўна-аздараўленчы комплекс, дзе не толькі праводзяцца мерапрыемствы, а працуюць групы «Здароўе». Прыносіць прыбытак арэнда памяшканняў.

Другі шлях — гэта вызваленне паркаў ад выплаты падаткаў у мясцовы бюджэт. Менавіта такое рашэнне прыняў Маладзечанскі гарвыканкам. Але найбольш эфектыўнай мерай захавання ўстановы культуры і адпачынку можа з'явіцца іх узяцце на частковае бюджэтнае фінансаванне. Такія прыклады ёсць, дзяржаўную датацыю ад горада атрымаў дзіцячы парк імя М.Горкага ў Мінску. Такую ж дапамогу ў бліжэйшы час можа атрымаць і Жодзінскі парк. Як вырашыцца лёс іншых паркаў культуры і адпачынку — пакажа час...

**Галіна ЛІНСКАЯ,**
**вядучы спецыяліст**
**упраўлення культуры Мінаблвыканкама.**



Успамін пра будучае. Фотазамалёўка Генадзя ЖЫНКОВА.



# ВІНШУЕМ!

*з 75-годдзем:*

**АДАШКЕВІЧА Сяргея Аляксандравіча**, скульптара;
**ЯВІЧА Пятра Максавіча**, жывапісца.

*З 50-годдзем:*

**КУЗНЯЦОВА Яўгена Ільіча**, мастака манументальнага жывапісу;
**ХАЦКЕВІЧА Віктара Сцяпанавіча**, мастака манументальнага жывапісу.

●

Днямі народны мастак Беларусі **Аляксандр Кішчанка** быў удастоены медаля імя Францішка Скарыны. Пачэсную ўзнагароду майстру ўручыў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч. На ўрачыстай цырымоніі, якая адбывалася ў майстэрні жывапісца, прысутнічаў міністр інфармацыі РБ Анатоль Бутэвіч, іншыя прадстаўнікі ўрада, калегі і прыхільнікі творчасці мастака.



# КАНЦЭПЦЫЯ БЫЦЦЯ...

...Лёгкай палоскай растае ў далечыні проціleглы бераг. У залацістым вячэрнім небе плыве падобнае на вялізнага звера воблака, паўторанае, як у люстэрку, у спакойнай вадзе. Быццам апошнія вартавыя калісьці магутнага лесу, стаяць на пярэднім плане берага тры сасны. Пейзаж «Пад вечар», як беларуская песня, — напеўны, лірычны і крыху сумны. Гэта адзін з многіх пейзажаў, якія мы бачым на выставе старэйшага мастака Беларусі Пятра Аляксеевіча Данеліі.

Імкнучыся асэнсаваць творчае аблічча гэтага майстра, прыходзіш да высновы, што каштоўнасць ягоных твораў — у іх сучаснасці. Мастацтва Данеліі сучаснае не таму, што ён выбірае сённяшнія сюжэты і матывы, напоўненыя звонкаю навізнаю пачуццяў, а наадварот, ён выбірае гэтыя матывы ў выніку абвостранага адчування сучаснага жыцця. Усёй мастакоўскаю душой ён прымае тое новае, што няўхільна ўваходзіць у нашу рэчаіснасць, нязменна паказваючы пры гэтым сваё тонкае і глыбокае разуменне прыгожага. Лірычнае перажыванне прыроды, разнастайнасць тэм і сюжэтаў, уменне бачыць прыгажосць і значнасць у звычайным, блізкасць прыроды чалавеку — усё гэта традыцыі нашага нацыянальнага пейзажнага жанру. Але, бадай, самая каштоўная якасць Пятра Аляксеевіча заключаецца ў тым, што яго творы блізкія гледачу па сваёй эстэтычнай канцэпцыі быцця, па высокіх духоўных асновах, музычна-паэтычнаму ладу кампазіцый. Народную перакананасць беларусаў у тым, што светлыя асновы жыцця незнішчальныя і непераможныя, што прыгажосць свету і шчасце прыналежнасці да яе возьмуць верх над усім іншым — з глыбінёй і праніклівасцю выдатнага мастака ўспрыняў Пётр Данелія. Такую канцэпцыю быцця, нібы вынесеную за рамкі ўсяго штодзённага, часовага, ён паклаў у аснову свайго мастацтва. У гэтым — самы глыбінны, каранёвы пласт характару яго творчасці.

Зразумела, было б недарэчнасцю шукаць у кампазіцыях Данеліі якую б там ні было хроніку штодзённасці. Яшчэ больш, тут непрыдатныя і звычайныя меркі разважанняў пра ландшафтны жывапіс. Пейзажныя карціны мастака паказваюць гледачу не толькі тыя ці іншыя мясціны Беларусі — перад намі кожны раз у адзіным і непаўторным варыянце ўзнікае яшчэ і паэтычны роздум сучасніка, у якім гучаць галасы радасці і тугі, складанага жыццёвага вопыту і летуценных імкненняў, успамінаў і рамантычных узлётаў.



*П. Данелія. «Цяплее». 1954 г.*

Брэстчына з самага пачатку на ўсё жыццё стала шчырай любоўю Данеліі. Столькі дарог і сцяжын прайшоў ён з эцюднікам, любуючыся спакойнымі далячынямі гэтага краю, яго рэкамі, лясамі, азёрамі, прасторамі палёў, раскрываючы для сябе ўсю неяскравую і ў той жа час велічную прыгажосць гэтых ландшафтаў.

«Калі паміж мною і тым, што я бачу, узнікае кантакт, я адчуваю хваляванне, якое ўяўляецца мне самым радасным чалавечым пачуццём, — прызнаецца мастак. — Я быў бы шчаслівы, калі б праз мае палотны глядач адчуваў бы такое ж хваляванне».

**Б.К.**

# КАНОН ДУХОЎНАСЦІ

Доўгі час імя Яўгена Іванавіча Ждана было вядома на Беларусі як мастака-дэкаратара, жывапісца, афарміцеля шматлікіх святочных канцэртаў. На выставе, якая адбылася ў мастацкім музеі Беларусі і прысвечана была 1000-годдзю праваслаўя на Беларусі, на суд гледача былі прадстаўленыя каля 50 работ Я.Ждана. Мастак стварыў галерэю вобразаў беларускіх святых і асветнікаў — Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Міна Полацкага, Марціна Тураўскага, Соф'і Слуцкай і іншых.

У іконах, розных па памерах і сюжэтах, мастак кіруецца адзінымі прынцыпамі ў кампазіцыі, каларыце, мадэліроўцы формы, выяўляе ўжо выпрацаваны ў яго навык у перадачы рыс твару, вопраткі, архітэктуры, пейзажа і іншых дэталяў. Ждан мысліць маштабна. Ён не дробіць створаны вобраз неістотнымі дэталямі. У каларыце дамінуе вохра, золата, зеляніна, сінява. Мастак ідзе ад класічнага канона, але твары святых радасныя і ў той жа час яны незямныя, прасветленыя, спачувальныя. Пейзажныя матывы выступаюць у яго то ў выглядзе ўзгорка з дрэвам, пышныя кроны якога як бы развяваюцца на ветры, альбо гэта — адзінокае нахіленае дрэва. Характэрнае для цыкла гэтых работ тое, што аўтар, як і старыя майстры, надае ім візантыйскую дэкаратыўнасць, дзе анёлы лунаюць у воблаках. Вырашае ён гэта па-свойму, але прытрымліваецца канона іконы. Фігуры ў яго, як у Эль Грэка альбо Рублёва, — падоўжаныя. І робіць ён гэта свядома, каб перадаць узнёсласць, духоўнасць. У творах Ждана няма механічнай перадачы вобразаў завучанымі прыёмамі. Новыя рысы ў яго творчасці развіваюцца, адлюстроўваючы агульны напрамак у беларускім жывапісе канца XX стагоддзя. Але іканаграфія Ждана дае падставу сцвярджаць, што майстар яшчэ моцна звязаны з традыцыямі рускага іканапісу.

На маё пытанне, як нараджаюцца тэмы, ідэі напісання гэтых работ, Ждан адказаў, што ў яго закладзена гэта генетычна — прыродай, і ён толькі чакае імпульсіўнага штуршка ў ягонай душы — гэта значыць абуджэння. Для гэтага мне прыйшлося вывучыць Біблію, Каран, хачу зразумець Будызм — усе рэлігіі розных народаў, а таксама іх культуру. Чалавек створаны Богам і з'яўляецца вянцом тварэння. І кожны чалавек павінен жыць дзеля ствральных праяў. Я падтрымліваю вучэнне Рэрыхаў. Яны з'яўляюцца маімі натхніцелямі. Яшчэ ў 1976 годзе я быў у Маскве ў гасцях у прыёмнай дачкі Рэрыхаў. Ждан расказваў аб убачанай калекцыі Рэрыхаў з захапленнем. Разам з Ірынай Шыкуновай і Аляксандрам Дэдзікам (з якімі ён правёў некалькі вечароў) яны запрасілі сям'ю Рэрыхаў на свае спектаклі. «Я любіў Рэрыхаў, я неяк па асобаму адчуў іх геніяльнасць, менавіта, у іх доме, каля іх сямейнага ачага», — гаварыў мне з хваляваннем Яўген Ждан. Тады ж ён і пазнаёміўся з сынам Рэрыхаў, Святаславам Мікалаевічам, выдатным жывапісцам, культурным дзеячам... У нашай гутарцы мастак сказаў, што ў душу да сябе рэдка каго пускае і не кожнаму, нават сваяку, можа аб сабе расказаць. І толькі самаму блізкаму чалавеку — маці — ён можа раскрыцца. Таму часта на яго палотнах дамінуе вобраз маці ў розныя перыяды яе жыцця. На такой ноце мы і закончылі размову.

**Галія ФАТЫХАВА.**



*Прападобная Ефрасіння, ігумення Полацкая.*



*П. Данелія. «Навальнічная трывожнасць».*



*Ю. Любімаў. «Юнацтва».*



*В. Шматаў. «Аўтапартрэт».*



*Ю. Любімаў. «Набор для каміна».*



*В. Шматаў. «Лёс» з серыі «Чарнобыльская трагедыя».*

## *ВЫСТАВЫ:*

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі Саюза мастакоў Беларусі працуюць персанальныя выставы **Пятра Данеліі, Юрыя Любімава і Віктара Шматава.**

## ВОСЕНЬСКІ ВЕРНІСАЖ

З 6 верасня і па 1 кастрычніка ў Доме мастацтваў адбываецца выстава-продаж «Восеньскі вернісаж». Па сутнасці гэта —невялікі збор жывапісу, графікі і скульптуры, калекцыя, у якой прадстаўлены работы дванаццаці мастакоў: па тры творы ад аднаго аўтара, і ўсе тры зазвычай пад адной назваю. Больш нязвыкла іншае: манера, у якой яны выкананыя, бо гэта — авангард.

Беларускі аматар жывапісу, нават у наш час, не вельмі распешчаны выставамі падобнага кшталту, як і ўвогуле сучасным айчынным авангардам, і «Восеньскі вернісаж» у Доме мастацтваў — адна з нешматлікіх такіх выставаў.

Выстава цікавая яшчэ і сваёй разнастайнасцю пры параўнальна невялікай колькасці аўтараў. Жывапіс І.Кузняцовай, З.Літвінавай, Б.Іванова, А.Фалея, А.Кузняцова, А.Жураўлёва, А.Марышава прыемна здзіўляе сваёй разнастайнасцю. Для палотнаў мастакоў з Оршы — а гэта Б.Іваноў ("Малітва"), А.Жураўлёў ("Стварэнне матэрый"), А.Фалей (без назвы), А.Марышаў ("Белае воблака") — надзвычай характэрна глыбінная повязь з таемнымі працэсамі чалавечай падсвядомасці.

Стракатасцю ды бліскучасцю колераў вылучаюцца «Зацьменне», «Птушка шчасця», «Сілуэты і птушкі» З.Літвінавай.

Гэтак жа і графіка, з якой можна пазнаёміцца на выставе, неаднастайная як у сваім выкананні, так і ў адметнасцях успрымання. У творах М.Бардзыкі, В.Хіна, В.Баранава адбіваюцца розныя прасторавыя ўласцівасці і магчымасці, якімі прастора, як асобная катэгорыя чалавечага светаўспрымання, зазвычай заўсёды валодае, але не на кожным кроку раскрывае іх для чалавека. Здавалася б, простая графіка В.Хіна ўскладняецца (або дапаўняецца) яшчэ і спробай маляваць словамі, сказамі, літарамі. А гэта не проста. Бо традыцыя маляваць пісьмом распаўсюджана ў культуры Усходу (арабска-персідская ды япона-кітайская каліграфія).

Скульптура «Восеньскага вернісажу» складаецца з чатырох работ: «Амазонка» (бронза), «Сядзячая» (бронза, мармур), «Адам і Ева» (бронза, дрэва) і «Страсці мае» (бронза, граніт). Аўтар усіх чатырох — скульптар Г.Гаравая.

Лёс мастака заўсёды цяжкі і складаны. Напрыклад, А.Кузняцоў, удзельнік гэтай жа выставы, зведаў пятнаццацігадовы перыяд непрызнання. Але лёс мастака-жанчыны яшчэ цяжэйшы, і Г.Гаравая, З.Літвінава, І.Кузняцова — тыя, хто ўсё ж найбольш поўна рэалізаваў сябе ў творчасці. Да таго ж мастак, як яно часта бывае, па-рознаму выяўляе свае здольнасці і спрабуе сябе ў розных галінах мастацтва. У І.Кузняцовай гэта літаратура. Яна піша казкі, песні, і зусім нядаўна выйшла кніга яе вершаў.

Апантаным у мастацтве ўласцівыя свае духоўныя запатрабаванні і свой свет. Аднасова з адкрыццём выставы-продажу «Восеньскі вернісаж» пачала сваю працу мастацкая галерэя, створаная пры Саюзе тэатральных дзеячаў, у чым вялікую дапамогу аказаў галоўны зберагальнік Мастацкага музея Мікалай Паграноўскі і спонсарам якой з'яўляецца НТК «Тэхнасэрвіс». Галерэя задумана не проста як нейкая мастацкая крама, дзе можна было б прадаваць творы жывапісу, графікі, скульптуры ды набываць іх — галерэя задумана хутчэй як своеасаблівы клуб, дзе маглі б сустракацца мастакі і аматары мастацтва, каб пагутарыць, падзяліцца задумамі, уражаннямі і ўвогуле поглядамі на мастацтва, выказаць свае ідэі.

У ліку гасцей галерэі 15 верасня «Восеньскі вернісаж» наведалі амерыканцы, якія знаходзяцца на Беларусі па пытаннях канверсіі. Яны не былі асабліва ўражаныя, паколькі такі авангард і выставы падобнага роду — з'ява ў іх на радзіме даволі частая, як не штодзённая. Але ж і ім таксама было прыемна даведацца і пераканацца, што традыцыі К.Малевіча, М.Шагала не знікаюць і, па сутнасці, ніколі не перарываліся тут, на Беларусі. Трэба спадзявацца, што яны гэтаксама не перарвуцца і надалей.

**Андрэй ГУЦАЎ.**



### *УЗІРАЮЧЫСЯ Ў СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ...*



*«Вымушаны прыпынак». Злева направа: мастакі П. Свентахоўскі, Л. Шчамялёў, А. Марачкін. 1976 г.*

# ДЫЯЛОГ ЛЮДЗЕЙ ЦІ ДЫЯЛОГ КУЛЬТУР?



## ЛЁС КНІГІ Ў АЎДЫЁ-ВІЗУАЛЬНЫ ВЕК

*Калі мы гаворым аб сучаснай культуры, яе надзённых праблемах, то абавязкова ўжываем такія ўдакладняючыя эпітэты, як «заходняя» альбо «ўсходняя», «культура моладзі» ці «культура старэйшага пакалення», «культура бізнесу» і «культура жыцця». Спіс гэты можна падоўжыць, калі, у прыватнасці; прымяніць да аналізу гэтага паняцця камунікатыўны падыход. Разумеючы чалавечую камунікацыю як асаблівую тэхналогію кадзіравання, перадачы і прыёму інфармацыі, правамерна падзяліць усе гістарычна існуючыя тыпы камунікацыі на тры вялікія блокі: камунікацыю пры дапамозе вуснай мовы, якая з'яўляецца базавай для зносін паміж людзьмі, камунікацыю праз тэкст — пісьмовы альбо друкаваны, і камунікацыю, заснаваную на выкарыстанні магутных сучасных сродкаў масавай інфармацыі. — тэлебачання, кінематографа і камп'ютэраў у якасці ядра. Кожнаму тыпу камунікацыі адпавядае (па гэтым крытэрыі) пэўны тып культуры, які мае шэраг спецыфічных асаблівасцяў: гэта культура асабістых зносін, тэкставая (ці кніжная) культура і культура аўдыёвізуальная (або экранная).*

Характэрная прыкмета нашага часу — відэакультура, якая хуткімі тэмпамі набірае моцы. Шпарка расце колькасць розных відэаклубаў, папаўняюцца новымі і ўсё больш разнастайнымі па змесце і жанры фільмамі відэатэкі, павялічваецца колькасць асабістых камп'ютэраў і відэамагнітафонаў у сем'ях. У жыццё ўваходзіць пакаленне 12 — 16-гадовых, якое ўжо больш ці менш працяглы перыяд (3 — 5 гадоў) выхоўваецца, у асноўным, на прадукцыі відэакультуры, у тым ліку на камп'ютэрных гульнях. Ці будзе гэтая моладзь адрознівацца ад сваіх папярэднікаў, чыё сталенне ажыццяўлялася перш за ўсё пад уплывам кнігі? Адказ на гэтае пытанне відавочны: безумоўна так. Тым не менш нашмат цяжэй даць аб'ектыўную ацэнку гэтай з'яве, і перш за ўсё трэба высветліць тыя прычыны, якія прыводзяць да такіх перамен у культуры. Калі гэтыя перамены натуральныя і неабходныя, не залежаць ад нашых жаданняў, дык трэба, каб культурная палітыка дзяржавы была накіраваная перш за ўсё на пошук тых пазітыўных вынікаў, якія закладзены ў іх. На жаль, па сённяшні дзень у грамадскай свядомасці пануе думка аб несумяшчальнасці кнігі і відэафільма ў сучаснай культуры. Чаму, з якіх прычын спараджаецца гэтая антытэза і да чаго з бегам часу яна прыводзіць?

Традыцыя *асабістай камунікацыі* з'яўлялася дамінуючай на працягу доўгага гістарычнага перыяду. Яна пачалася з аддзяленнем чалавека ад жывёльнага свету і ўтварэннем першых чалавечых калектываў, але не страціла свайго значэння аж да з'яўлення пісьмовасці. У філасофіі культура непасрэднай камунікацыі выражала крэда антычных мысляроў: прыгадаем прыхільнасць да жывога дыялога як аптымальнай формы навучання і выхавання. Платон у «Федры» прыводзіць старадаўняе паданне аб егіпецкім боге Тоце, які прыйшоў да цара багоў Тамуза са словамі: «Мой пане, я прыдумаў дасціпную рэч, якая завецца пісьмовасцю, яна палепшыць як розум, так і памяць егіпцян». У адказ Тамуз заявіў, што, наадварот, пісьмовасць ёсць нізкай заменай памяці і разумення: «Той, хто авалодае ёю, пакіне трэніраваць сваю памяць і стане няпамятлівым, ён будзе давярацца пісьмовасці, спадзеючыся, што гэтыя значкі нагадаюць яму што трэба, замест таго каб разлічваць на свае ўнутраныя магчымасці». Гэты прынцып антычныя мысляры паклалі ў аснову сваіх адносінаў з навучэнцамі: трэба, каб філасофскія гутаркі падчас шпацыру па наваколлі поліса пераканалі маладых у тым, што розум зводзіцца не да пісьмовасці. Гэта ілюзія, бо розум знаходзіцца ў самім чалавеку. Менавіта таму не існуе твораў Фалеса ці Сакрата, Дэмакрыта ці Анаксагора. Іх думкі захаваліся дзякуючы тым людзям, што праз некалькі стагоддзяў пісьмова зафіксавалі іх, — сама гісторыя даказала перавагу пісьмовай традыцыі. Сістэма культуры з вуснай размовай як галоўным камунікатыўным сродкам была магчымая толькі ў нейкіх невялікіх альбо замкнёных калектывах, у тым ліку ў эзатэрычных філасофскіх акадэміях Платона і Арыстоцеля, дзе галоўнай функцыяй камунікацыі была непасрэдная перадача ведаў ад настаўніка да навучэнца, ад аднаго мысляра да іншага.

*Камунікацыя праз тэкст* у сваіх вытоках ідзе ад сярэднявечча, калі ў тагачаснай Еўропе склалася надзвычайная духоўная сітуацыя, якая была звязаная з універсальнасцю хрысціянскага сімвалізму і вялікай роляй Божага Слова ў сярэднявечным менталітэце. Усё гэта прыводзіць да таго, што фармуецца асаблівая вартасная парадыгма каштоўнасцяў, якая вызначае сабой асноўныя характарыстыкі новай культуры — гэта парадыгма літаратурацэнтрысцкага, кніжнага разумення культуры. Гэта значыць, што кніга пачынае разглядацца як асноўная каштоўнасць у культурнай іерархіі, як узор, з дапамогай якога ацэньваюцца ўсе астатнія культурныя феномены. Напрыклад, для філасофскіх і тэалагічных даследаванняў таго часу вельмі характэрным было не стварэнне новых уласных твораў, а дыскусіі як вакол класічных рэлігійных твораў, так і вакол тэкстаў Платона і Арыстоцеля. Такім чынам, у сярэднявеччы пачынаецца праца па інтэрпрэтацыі і вытлумачэнні ўжо напісанага, ужо адчужанага ад аўтара і зафіксаванага ў якасці літаратурнага помніка. У аснову культуры кладзецца ідэя працы з тэкстамі, іх аналіз і вытлумачэнне.

Чым жа адрозніваецца гэтая новая культура ад папярэдняй — культуры, заснаванай на непасрэднай камунікацыі паміж людзьмі? Перш за ўсё, тэкставая культура валодае надзвычай развітай функцыяй кансервацыі інфармацыі. Калі размоўная культура не мае патрэбных механізмаў трансляцыі інфармацыі ў часе і таму лёгка гіне, дык значную большасць каштоўнасцяў пісьмовай культуры магчыма захаваць. Але гэтая культура мае яшчэ дзве асаблівасці, вельмі цікавыя з пункту гледжання асноўных тэндэнцый развіцця сучаснай культуры. Гэта наяўнасць дастатковай колькасці ступеней свабоды і дэтэрмінацыя праз мову.

Кніжная культура мае *пэўную колькасць ступеней свабоды.* Гэта значыць, што чалавек, які чытае той ці іншы тэкст, набывае не люстраную копію думак і пачуццяў, якія жадаў выказаць аўтар, а сваё асабістае разуменне гэтых пытанняў. Аўтар мае пэўную ідэю, і гэтая ідэя матэрыялізуецца ў тэксце, у выніку чаго тэкст адчужаецца ад аўтара і набывае ўласнае быццё. Чалавек чытае тэкст і на яго аснове фармуе асабістае бачанне рэчаіснасці. Такім чынам, аўтар нічога «не перадае», яго ідэі застаюцца пры ім, а чытач нічога «не атрымлівае», а толькі далучаецца да гэтых ідэй, зразумелых ім у адпаведнасці з ягонай асабістай арганізацыяй думак. Дзякуючы гэтай інтэрпрэтацыі і праз наяўнасць у людзей адрозных структур азначэння рэальнасці тэкст узбагачаецца велізарнай колькасцю новых сэнсаў. Чым прымітыўней тэкст, тым больш ён арыентаваны на простую перадачу інфармацыі. Напрыклад, вайсковы загад (а часцяком не толькі вайсковы) прызначаны для адзіна магчымай інтэрпрэтацыі, тып гэтай камунікацыі — «зверху ўніз» — для безумоўнага падпарадкавання. Такі тэкст монафункцыянальны. Чым складаней тэкст, тым больш ён адкрыты для творчасці чытача, тым больш разнастайнае (вольнае) яго выкарыстанне. Цешу сябе надзеяй, што гэты артыкул не будзе ўспрыняты чытачамі як «Азбука» ці «Ойча наш»; хацелася б, каб ён выклікаў плыню думак і асацыяцый, хоць і далёкіх ад ідэй аўтара, але прадуктыўных. Падкрэслю яшчэ раз: пры знаёмстве з новым тэкстам яго можна зразумець «не гэтак» (не тоесна аўтару, вольна, метафарычна — у адпаведнасці з асабістымі меркаваннямі), але няўжо такое разуменне будзе памылковым? — Безумоўна не. Наадварот, у сітуацыі непасрэднага кантакту новы сэнс можа быць лягчэй «задушаны» старым, выпрабаваным, правераным прынцыпам. Тэкст жа не пераб'е, не жадаючы слухаць, не зняважыць пагардлівай усмешкай, нарэшце, не закрые рукамі вушы і не грукне дзвярыма, што, на жаль, бывае фіналам некаторых «жывых» дыялогаў.

Такім чынам, кніжная культура, маючы дастатковую колькасць ступеней свабоды, спрадвечна накіравана на дыялог, прычым як на дыялог аўтара з чытачом-сучаснікам, так і на дыялог гэтага тэксту з папярэднімі — дыялог з мінулым.

Іншая характэрная рыса кніжнай культуры — гэта *дэтэрмінацыя праз мову.* Можна не згаджацца з канцэпцыямі, што абсалютызуюць ролю мовы ў гісторыі культуры (Л.Вітгенштэйн, М.Хайдэгер), але трэба адзначыць значэнне мовы як сродку камунікацыі, як перадатчыка нашых думак і пачуццяў. Менавіта мова выконвае функцыю мадыфікацыі ўжо існуючых сэнсаў і нараджэння новых. Гэтая ўласцівасць мовы — трансфармацыя сэнсаў — ляжыць у аснове паэтычнай творчасці. Нобелеўская лекцыя славутага сучаснага паэта І.Бродскага ёсць, па сутнасці, трактатам аб ролі мовы. Пры роздуме аб тым, чаму паэты пішуць вершы, Бродскі адхіляе і меркаванні матэрыяльнай выгоды, і надзею на пасмяротную славу. «Той, хто піша вершы, піша іх таму, што мова падказвае яму альбо проста дыктуе наступны радок. Пачынаючы верш, паэт, як правіла, не ведае, чым ён скончыцца. І часам аказваецца вельмі здзіўлены тым, што атрымалася, бо часта атрымліваецца лепей, чым ён спадзяваўся, часта думка яго заходзіць далей, чым ён разлічваў. Гэта і ёсць той момант, калі будучыня мовы ўмешваецца ў яе цяперашчыну».

Якім жа чынам уплывае мова, на якой мы чытаем і пішам, на наша ўспрыманне рэчаіснасці?

Перш за ўсё, мова не з'яўляецца толькі інструментам, у якім увасабляюцца нашыя ідэі, мова сама ўдзельнічае ў фармаванні гэтых ідэй, у аналізе ўражанняў, у стварэнні праграм і планаў чалавечай дзейнасці. Без мовы не было б магчымым ніякае пазнанне свету: ні навуковае, ні эстэтычнае, ні рэлігійнае, таму што ў пазнанні чалавек расчляняе рэчаіснасць у адпаведнасці з тымі катэгорыямі, якія структурыруюць яго свядомасць. Мы рассякаем прыроду па тых асноўных напрамках, якія дадзены ў мове, мы вылучаем з нашага досведу толькі тыя катэгорыі, якія закладзены ў сістэме мовы. Пазнанне заўсёды пачынаецца з выдзялення і, такім чынам, з называння. Назваць прадмет або з'яву тым ці іншым словам — значыцца вызначыць яго. Свет аказваецца пераломленым праз мову.

Гаворачы аб актыўнай ролі мовы, мы сутыкаемся з фактам яе своеасаблівага «дыктату». Мы можам трапіць у сітуацыю, калі *слова заслоніць нам рэчаіснасць.* Хаця кожнае слова мае цэлы набор розных сэнсаў, чалавек вылучае толькі свой асабісты і распаўсюджвае яго на ўвесь сэнсавы аб'ём. Як падкрэсліваў яшчэ на пачатку XX стагоддзя заснавальнік тэорыі стэрэатыпізацыі У.Ліпман, «... спачатку мы даём вызначэнне з'явам, а ўжо потым назіраем іх непасрэдна. З вялікага, поўнага колераў і гукаў свету мы выбіраем толькі тое, што наша культура ўжо прадвызначыла за нас». Такім чынам, слова мадыфікуе, скажае рэчаіснасць у адпаведнасці з выпрацаванымі ў той ці іншай культуры штампамі і стэрэатыпамі. Асоба непрыкметна для сябе адпрэчваецца ад сваёй сутнасці і пачынае выступаць у якасці носьбіта пэўнае сістэмы каштоўнасцей і сэнсаў. Не «Я мыслю», а «Мной мысляць». Індывід у дадзеным выпадку аказваецца толькі пасрэднікам, звяном у агульным ланцугу.

Менавіта да такой невясёлай карціны прыводзіць нас паслядоўны аналіз кніжнай культуры. Першапачаткова арыентаваная на дыялог з прычыны наяўнасці ўнутраных ступеней свабоды, яна ператварае яго не ў дыялог асоб, а ў дыялог культур, дзе роля асобы зведзена да выяўлення агульных ісцін той культуры, да якой яна прыналежыць. Выразны прыклад для пацвярджэння гэтай гіпотэзы — уплыў лацінскага (і славянскага!) алфавіту на еўрапейскую культуру ўвогуле і яго адрознасці ад вобразна-іерагліфічных моваў.

Лацінскі алфавіт прыналежыць да групы фанетычных алфавітаў, дзе кожнаму гуку адпавядае той ці іншы знак. У японскім або кітайскім пісьме кожны іерогліф вызначае той ці іншы вобраз. Так, еўрапейцы з дзяцінства прывыкаюць мысліць катэгорыямі, рацыянальна і лагічна, тым часам як японцы — вобразна, нефармальна і інтуітыўна. Такі тып мыслення фармуе адпаведную праграму паводзін — еўрапейскі «сіндром Фауста», які ўключае ў сябе і прынцып сілы ў дачыненні да іншых сутнасцей (прыроды, культуры), і самалюбаванне, і сучасны экалагічны крызіс, і ператварэнне грамадства «на пачатках розуму», і небяспеку тэрмаядзернай катастрофы, нарэшце.

Да адпаведных высноў прыйшоў некалькі дзесяткаў гадоў таму канадскі філосаф і сацыёлаг Маршал Маклюэн. Ён адзначаў, што чытанне надрукаваных тэкстаў з лінейна размешчанай паслядоўнасцю знакаў прышчапіла людзям звычку «лінейнага» ўспрымання падзей. Гэта вядзе да дэфармацыі ўспрымання, таму што шмат падзей адбываецца не паслядоўна, адно за адным, з дакладнай прычыннай сувяззю, а адначасова. Аднак апісванне падзей, якія адбываліся паралельна, не можа быць сінхронным. У выніку асаблівасцей нашага пісьма мы вымушаны разбіваць суцэльную карціну на фрагменты і апісваць іх па чарзе. Чарговасць апісвання ўстанаўліваецца намі адвольна ў адпаведнасці з нашымі ўяўленнямі аб аналізе і іншых лагічных працэдурах. У выніку мы маем не суцэльны вобраз прадмета ці падзеі, а набор яго характарыстык, не заўсёды істотных. Такі тып пісьма ўплывае і на паэтыку мастацкіх твораў: дамінуючым напрамкам у еўрапейскім мастацтве з'яўляецца рэалізм з яго пабудаванасцю апавядання праз мінулае да цяперашняга і далей да будучага. Аднак творцам складана ў такіх цесных рамках — нараджаюцца творы з «ламанай» паэтыкай — ад «Алісы ў Залюстроўі» Л.Кэрала і «У пошуках страчанага часу» М.Пруста да сучасных аўтараў. Так кніжны тып культуры дэманструе сваю абмежаванасць і патрабуе калі не змены, то дапаўнення. І развіццё тэхнікі дапамагае мастацтву: надыходзіць эра тэлебачання і новых аўдыёвізуальных сродкаў з адпаведным тыпам культуры.

**Ірына СІДОРСКАЯ,**
*аспірантка Белдзяржуніверсітэта.*



*«Праблемы аховы і рэстаўрацыі гісторыка-культурных каштоўнасцей у канцы XX стагоддзя: утопія і рэчаіснасць» — так называлася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, што праходзіла 17 — 21 жніўня г.г. у Міры — цікавым гістарычным мястэчку Беларусі. Спецыялісты з нашай рэспублікі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі абмяняліся думкамі па зберажэнні і аднаўленні гісторыка-культурнай спадчыны ў сваіх рэгіёнах, абагульнілі напрацаваны вопыт, запыніліся на праблемах і новых накірунках гэтай дзейнасці ў цяперашніх сацыяльна-эканамічных умовах.*

*Ініцыятары правядзення канферэнцыі — Дзяржаўная інспекцыя Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і Міністэрства культуры рэспублікі.*

*Свае выступленні на канферэнцыі прапанавалі газеце тры яе ўдзельнікі — Алег Трусаў, Ігар Чарняўскі і Ёнас Глямжа. Друкуем фрагменты іхніх спавешчанняў.*

Алег ТРУСАЎ, археолаг, кандыдат гістарычных навук

# «МАТЭРЫЯЛЬНЫЯ РЭЧЫ — ПАДМУРАК СВЯДОМАСЦІ»

... Покі сярод беларускай інтэлігенцыі не было нацыянальна свядомых гісторыкаў, у суседняй Літве стаў развівацца этнаграфічны эгаізм літоўскай інтэлігенцыі, якая ўсімі магчымымі сродкамі стварала міф пра тое, што Вялікае княства Літоўскае —гэта гістарычная дзяржава жмудзінаў і аўкштайтаў і што этнонім «ліцвін» вызначае толькі балтаў. Не адставалі ад іх і польскія, а потым і расейскія гісторыкі, якія стараліся сцвердзіць «сваімі» значныя культурныя і гістарычныя каштоўнасці, створаныя рукамі беларускага народа на сваіх жа землях.

У выніку такой навуковай, ды і практычнай дзейнасці, на тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі з'явіліся «літоўскія» замкі, «польскія» касцёлы і сядзібы, «рускія» старажытныя храмы. Беларусам жа суседзі пакінулі толькі лапці і славуты «каўтун»... І ўсё ж этнаграфічныя і археалагічныя працы шматлікіх даследчыкаў беларускай мінуўшчыны не дазволілі цалкам патушыць ледзь бачны агеньчык беларускай гістарычнай думкі, не далі згаснуць іскрынкам гістарычнай самасвядомасці беларускага народа.

Важным пунктам адліку ў станаўленні беларускай гістарычнай навукі быў IX археалагічны з'езд, які праходзіў у Вільні яшчэ сто гадоў таму (1 — 14 жніўня 1893 года). У яго правядзенні ўпершыню ўдзельнічалі розныя прадстаўнікі тагачаснай гістарычнай навукі «Северо-Западного края» — археолагі, краязнаўцы, этнографы, гісторыкі, літаратары, фальклarysты. У кожнай губерні вяліся работы па стварэнні археалагічных картаў, у Вільні была наладжана выстава археалагічных знаходак. Гэта стымулявала стварэнне музеяў у губернях і некаторых павятовых цэнтрах тагачаснай Беларусі.

Даклады і паведамленні, заслуханыя на з'ездзе і выдадзеныя ў двух тамах у 1895 — 1897 гадах, засведчылі гістарычную адметнасць матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі. Менавіта на гэтых працах потым (у пачатку XX стагоддзя) грунтаваліся гістарычныя доследы і даследаванні А.Луцкевіча, М.Доўнара-Запольскага, Я.Карскага, Е.Раманава ды іншых вядомых спецыялістаў.

Традыцыйную ўвагу да беларускай археалогіі ў 20-я гады ў БССР падтрымоўвалі спачатку Інбелкульт, а потым — Акадэмія навук БССР. Беларуская археалагічная школа, створаная Ляўданскім і Палікарповічам, была адной з самых вядомых на тэрыторыі тагачаснага Савецкага Саюза. Мастацтвазнаўчыя працы Міколы Шчакаціхіна і Івана Хозерава, заснаваныя на шматлікіх археалагічных матэрыялах, вывелі беларускае мастацтвазнаўства і гісторыю архітэктуры на агульнаеўрапейскі і сусветны ўзровень. Аднак сталінскія рэпрэсіі 30-х гадоў, на жаль, не абмінулі такую нейтральную, здавалася б, далёкую ад палітыкі галіну навукі, як археалогія. У 1945 годзе ў Інстытуце гісторыі АН БССР заставалася толькі тры спецыялісты-археолагі, двое з іх — былыя польскія археолагі з Заходняй Беларусі муж і жонка Галубовічы.

Археалагічная навука на тэрыторыі Заходняй Беларусі не мела ўласнай нацыянальнай афарбоўкі і кіравалася ў асноўным на афіцыйную палітыку паланізацыі «крэсаў всходніх». Выключэннем з'яўляецца самастужная мастакоўская праца Язэпа Драздовіча, які пакінуў удзячным нашчадкам сотні малюнкаў і дзённікавых запісаў пра стан і выгляд нашых археалагічных і архітэктурных помнікаў.

Гісторыю археалагічнай навукі ў пасляваеннай БССР можна ўмоўна падзяліць на два этапы. У 50 — 60-я гады на Беларусь хлынулі шматлікія экспедыцыі маскоўскіх і ленінградскіх археолагаў; найбольш цікавыя экспанаты з рэспублікі вывозіліся, а культурныя пласты XIV — XVIII стст. бязлітасна знішчаліся. І гэта невыпадкова. У археалагічнай навуцы панавала «сталінская» версія «древнерусской народности» і адзінай старажытнарускай дзяржавы — гэтым і паслугоўваліся прыезджыя навукоўцы, а культурная спадчына Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай цалкам аддавалася ў карыстанне «савецкім» літоўскім і «сацыялістычным» польскім гісторыкам.

Аднак у канцы 60 — пачатку 70-х гадоў пачала адраджацца свая, нацыянальная археалагічная і гістарычная школа. З'яўляюцца першыя публікацыі Міколы Ермаловіча, Міхася Ткачова, Анатоля і Валянціна Грыцкевічаў, Міхася Чарняўскага, іншых беларускіх навукоўцаў. Менавіта па іх доследах Цэнтральны камітэт КПБ пад кіраўніцтвам П.Машэрава ў 1973 годзе нанёс рашучы ўдар, забараніўшы навуковую канферэнцыю па этнагенезу беларусаў. І ўсё ж працэс станаўлення нацыянальнай беларускай археалогіі не спыніўся...

На гістарычным факультэце Белдзяржуніверсітэта была адчынена кафедра археалогіі (1973 г.), а з 1976 — 1977 гг. пачаліся шырокамаштабныя археалагічныя даследаванні гарадоў і замкаў Вялікага княства Літоўскага. У гэты ж час пашыраецца студэнцкі будаўнічы рух — і на археалагічных раскопках, на аб'ектах рэстаўрацыі — помніках культуры і архітэктуры — працуюць сотні хлопцаў і дзяўчат, якія сталі ядром утварэння розных нефармальных маладзёжных аб'яднанняў, а потым — актыўнымі сябрамі Беларускага народнага фронту.

Да 1991 года беларуская археалогія, асабліва археалогія позняга сярэднявечча (XIV — XIX стст.) і архітэктурная археалогія, заняла адно з вядучых месцаў у археалогіі СССР. Яе здабыткі ўвасобіліся ў шматтомных энцыклапедычных выданнях. Згадайма «Збор помнікаў гісторыі і культуры БССР», «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», «Этнаграфію Беларусі», «Гісторыю беларускага мастацтва»...



Так, нялёгкі цяпер час. Але беларускія археолагі, як і раней, працуюць на сваіх дзялянках — працуюць на адраджэнне самасвядомасці беларускага народа. З іх дапамогаю ў гэтым годзе выйшла аднатомная энцыклапедыя, прысвечаная архітэктуры Беларусі. А хутка, будзем спадзявацца, пабачыць свет першая на Беларусі энцыклапедыя археалогіі і нумізматыкі, а таксама першы том «Гістарычнай энцыклапедыі Беларусі».

Ігар ЧАРНЯЎСКІ, археолаг

# З НЕБЮДЖЭТНАЕ КРЫНІЦЫ

Яшчэ ў 1991 годзе наша ўпраўленне выступіла з ініцыятывай стварыць на базе часткі гістарычнай забудовы Менска, якая мае назву Верхні горад, Акцыянернае таварыства «Стары Менск». Асноўная мэта яго дзейнасці — выкарыстанне небюджэтных крыніц фінансавання работ. Ідэя ўтварэння АТ «Стары Менск» была сустрэта неадназначна. У газеце «Звязда» (12.05.92 г.) з'явіўся нават адкрыты ліст дзеячоў культуры пад суровай назвай «Дыктатура нацыянальнага нігілізму». У ім дастаткова эмацыянальна гаварылася пра нібыта існуючы гандаль нацыянальным багаццем, пра занядбанне канцэпцыі Верхняга горада як гісторыка-культурнага цэнтра, кідалася абвінавачванне ў разбурэнні помнікаў даўніны, нацыянальным нігілізме ды недасведчанасці спецыялістаў Мінгарвыканкама ў пытаннях захавання гісторыка-культурных каштоўнасцей. Аднак усе надуманыя абвінавачванні знятыя ў рашэнні Мінгарвыканкама «Аб стварэнні Акцыянернага таварыства «Стары Менск», якое, відаць, аўтары ліста проста не чыталі. Новастворанай структуры перадаваліся правы «валодання, карыстання і здачы ў арэнду без права іншых формаў распараджэння гістарычнымі будынкамі і збудаваннямі, якія з'яўляюцца ўласнасцю Менскага гарадскога Савета народных дэпутатаў, тэрмінам на 49 гадоў». Пры гэтым утварэнне акцыянернага таварыства адбылося без нейкіх чалавечых трагедый, бо спецыялісты ранейшага ўпраўлення рэстаўрацыі Мінгарвыканкама ў поўным складзе перайшлі ў штат выканаўчай дырэкцыі таварыства.

Прыватны капітал не мог быць рэалізаваны на Верхнім горадзе пры існаванні кіруючай ролі дзяржаўнай, у дадзеным выпадку — муніцыпальнай структуры. Са стварэннем акцыянернага таварыства такі капітал на падставе дзеючых у Беларусі законаў атрымаў гарантыі ў межах вызначанага гістарычнага раёна Менска тэрмінам на 49 гадоў. Варта адзначыць, што пры гэтым кантрольны пакет акцый — 54 % — знаходзіцца ў Мінгарвыканкама і Галоўрэстаўрацыі, якія прадстаўляюць муніцыпальную і дзяржаўную структуры. Каб зняць падазрэнні ў нейкіх нячыстых памкненнях у адносінах да гістарычнай забудовы Менска, яшчэ раз было пацверджана імкненне стварыць на Верхнім горадзе гісторыка-культурны цэнтр, што і здзейснена ў сумесным пратаколе, падпісаным старшынёй Менгарсавета сп.Герасіменкам, начальнікам Галоўрэстаўрацыі сп.Буканём і міністрам культуры Беларусі сп.Вайтовічам.

Правамоцнасць утварэння акцыянернага таварыства пацвярджае яго непасрэдная дзейнасць. На сённяшні дзень у Верхнім горадзе з бюджэтнага фінансавання зняты пяць будынкаў па вул. Інтэрнацыянальнай, Герцэна, Кірылы й Мяфодзія. Усяго «Старым Менскам» на патрэбы рэгенерацыі гістарычнай забудовы прыцягнута з пачатку 1993 года звыш 50 мільёнаў рублёў. Да канца года гэту суму мяркуецца давесці да 200 мільёнаў рублёў.

Дзейнасць Акцыянернага таварыства «Стары Менск» праходзіць ва ўмовах, якія спрыяльнымі не назавеш. Большасць будынкаў на тэрыторыі Верхняга горада, згодна прынятай канцэпцыі яго рэгенерацыі, належыць прыстасаваць пад патрэбы культуры: тэатр, музеі, бібліятэка, выставачныя залы, музычная школа. Аб'екты гэтыя патрабуюць бюджэтнага ўтрымання. І тым не менш першая спроба акцыяніравання гістарычнай забудовы мае свае вынікі, яе вопыт ужо знаходзіць пашырэнне па краіне.

У ліпені 1993 года прынята рашэнне Брэсцкага гарвыканкама «Аб утварэнні Акцыянернага таварыства закрытага тыпу «Стары Брэст». Яму перададзена тэрыторыя Шпітальнага вострава Брэсцкай крэпасці, частка колішняга гістарычнага Берасця. У межах вострава плануецца аднавіць страчаную старасвецкую забудову і разам з ёю прыстасаваць ацалелыя будынкі да сучасных патрэбаў.

Зараз рыхтуюцца прапановы па акцыяніраванні гістарычнай забудовы шэрагу беларускіх гарадоў. У кожным з канкрэтных выпадкаў улічваюцца канкрэтныя мясцовыя асаблівасці: месцазнаходжанне, наяўнасць і зацікаўленасць патэнцыяльных фундатараў, магчымасць прыстасаваць будынкі пад адпаведныя сучасныя патрэбы (вядома ж, захоўваючы пры гэтым іх гістарычнае аблічча).

Ёнас ГЛЯМЖА, кандыдат архітэктуры, г.Вільнюс

# ЯК І ШТО МЫ АДНАЎЛЯЕМ

У 1988 — 1991гг. ідэя аднаўлення помнікаў у Літве зрабілася «хваляй», якая выдавала ледзь як не найгалоўную мэту аховы помнікаў. Тлумачылася гэта зразумелымі прычынамі — цягаю народа да незалежнасці і высокімі, узбуджанымі нацыянальна-патрыятычнымі пачуццямі. Але спецыялістам не варта паддавацца агульнай эйфарыі — трэба добра і цвяроза ўсё ўзважыць, пралічыць, не забыцца міжнародных рэкамендацый па ахове і кансервацыі-рэстаўрацыі помнікаў.

Зразумелае і апраўданае аднаўленне гістарычных аб'ектаў, знішчаных уладамі ў пасляваенныя гады, у савецкі час. Аднаўляць жа іншыя аб'екты культурнае спадчыны мы бяромся толькі ў выключных выпадках, калі ёсць неабходнае навуковае абгрунтаванне, калектыўная падтрымка спецыялістаў і, вядома ж, шырокая падтрымка грамадскасці.

З-за цяжкай эканамічнай сітуацыі мусім свае асноўныя намаганні скіроўваць на кансервацыйныя працы, калі ёсць магчымасць — ажыццяўляем фрагментарную рэстаўрацыю. У гэтым наша мэта — захаванне культурнае спадчыны як дакумента гісторыі, так бы мовіць, без сучаснай «каліграфіі», без сучаснага «правапісу».

На жаль, на практыцы маем і іншае — нездавальняючую якасць кансервацыйных прац, часам з-за недасканаласці праектных рашэнняў, часам — па прычыне нездавальняючага выканання вельмі добрага праекта.

Адсюль паўстае неабходнасць наладжваць і ўдасканальваць вытворчасць гістарычна-традыцыйных матэрыялаў для патрэб рэстаўрацыі, адсюль — неабходнасць у кваліфікаваных кадрах, іх уменні выкарыстоўваць гістарычныя тэхналогіі і майстэрства, не выключаючы, вядома, і новыя сучасныя матэрыялы, тэхналогію і абсталяванне, ужо апрабаваныя ў рэспубліцы, а асабліва — за мяжой. Мы, як кажуць, дзвюма рукамі «за» сустрэчы, супрацоўніцтва, абмен думкамі і вопытам з суседнімі замежнымі краінамі ў галіне рэстаўрацыі і аховы помнікаў. У гэтым плане падтрымоўваем прапановы спецыялістаў Беларусі, Польшчы.

*На здымку:*
Заслаўе. Свята-Праабражэнская царква (XVI — XVII стст.) — адзін з першых адноўленых на Беларусі помнікаў культавага дойлідства.

Арлен Кашкурэвіч, народны мастак Беларусі

# ВОСТРАЎ САГ, ЛЕДНІКОЎ І ВУЛКАНАЎ

## Ісландскія нататкі




Я прывёз з Ісландыі кавалак лавы. Яна пахне халодным ветрам і распаленай серай. Кантрасты характэрныя для гэтай краіны. Побач з гарамі, пакрытымі снегам, б'юць фантаны гарачай вады. Сярод безжыццёвых шэрых камянёў палымнеюць яркія кветкі.

Сустрэчы з Ісландыяй я чакаў шмат гадоў. Я марыў пра яе з таго моманту, калі ў 1959 годзе зрабіў сваю першую самастойную работу — ілюстрацыі да «Атамнай базы» Халдара Лакснэса. І вось яна паказалася ў ілюмінатары самалёта ў выглядзе пеністай паласы прыбою. Мы ляцелі над леднікам Ватнаёкуль.

Я і мая жонка Людміла запрошаныя ў Ісландыю таварыствам дружбы «MIR» Іварам Ёнсанам. Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі пасадзейнічала нам у арганізацыі гэтай паездкі. Я вязу сваю выставу графікі, Людміла — свае дэкаратыўныя вырабы. Мы будзем першымі прадстаўнікамі суверэннай Рэспублікі Беларусь, якія наведваюць Ісландыю з культурнай місіяй.



Арлен Кашкурэвіч з жонкай Людмілай ля вадаспада Гулфос.

У міжнародным аэрапорце ў Кефлавіку нас сустракалі актывісты таварыства «MIR» Івар Ёнсан, Вільбарг Крысцьянсдацір, Берглота Эйнарсдацір і Стэфан Вігфюсан. Быў па-ісландску цёплы вечар і такія ж цёплыя вочы нашых новых сяброў. Да Рэйк'явіка 45 кіламетраў. Я з захапленнем гляджу па баках дарогі, стараючыся запомніць першае адчуванне ад гэтай такой далёкай ад нас загадкавай зямлі.

Ісландыя заўсёды прыцягвала мяне сваёй суровай, незвычайнай прыродай, тысячагадовай гісторыяй, самабытнай культурай, надзвычай багатаю літаратурай. Я ведаў Ісландыю толькі па фатаграфіях ды па рэпрадукцыях мастакоў, і зараз я маю магчымасць убачыць яе сваімі вачыма, дыхаць яе празрыстым чыстым паветрам, і спадзяюся, я здолею зразумець дух ісландскага народа.

Паабапал дарогі бясформенныя груды акамянелае лавы, пакрытыя рудым імхом. Адчуваецца лёгкі пах серы. Такое ўражанне, быццам бы гэта — зямля ў першыя дні стварэння. Перасцярэ цьмянае адчуванне нейкай катастрофы. Неўладкаванасць, неабжытасць ландшафту. Час ад часу сярод гэтае рудой масы з'яўляюцца фіялетавыя плантацыі такога знаёмага нам лубіну. Злева свінцовая палоска акіяна.

Набліжаемся да Рэйк'явіка. Акуратны мініяцюрны горад, яркі ў праменнях мяккага вячэрняга сонца.




Вуліца ў Рэйк'явіку.

У «MIR» нас ужо чакалі ўдзельнікі Кіраўніцтва. Прынялі вельмі ветліва і пасля лёгкай вячэры размова зацягнулася да позняга. Зрэшты мы страцілі адчуванне часу. На вуліцы светла нібы ўдзень. Зараз тут белыя ночы.

Таварыства «MIR» узяло на сябе ўсе выдаткі, звязаныя з нашай паездкай і арганізацыяй выставы. За час усяго нашага знаходжання ў Ісландыі мы былі акружаны ўвагай і клопатам нашых сяброў. Былі цёпла прынятыя ў многіх дамах. У падрыхтоўцы нашага візіту і наладжванні выставы прынялі ўдзел усе сябры Кіраўніцтва «MIR».

Наша выстава павінна адчыніцца праз некалькі дзён. А пакуль па вечарах ідзе праца. Цудоўныя майстры Стэфан, Крысцьян і Ёўн устаўляюць работы ў рамы, фарбуюць стэнды. Робіць гэта яны з любоўю, старанна і вельмі весела. Адчуваецца, што праца прыносіць ім радасць.

Я прывёз больш за 40 твораў графікі. Гэта варыяцыі на тэму «Фауста», «Горад і людзі», ваенная серыя, новыя малюнкі на тэму «Песні Песняў» і серыя паводле матываў старажытнага ісландскага эпасу «Эда». Многае з гэтага будзе паказана ўпершыню. Людміла хоча паказаць свае забаўныя, выкананыя ў тэхніцы мастацкага вязання цацкі-сувеніры. Гэта персанажы з беларускіх народных казак і легенд. У наш тэхнакратычны, рацыянальны век яны дапамагаюць чалавеку ўвайсці ў свет фантазіі і паэзіі.

Мы жывем на другім паверсе невялічкага асабняка побач з акіянам на вузкай, бакавой ад цэнтра вулачцы Ватнстыгур. Трохпакаёвая кватэрка, мэбляваная з камфортам. Лядоўня на кухні набітая ўсемагчымай ежай. Пакуль ідзе афармленне выставы, мы знаёмімся з людзьмі і горадам. Рэйк'явік — самая паўночная сталіца ў свеце. Па нашых мерках, гэта невялікі горад. Усё насельніцтва Ісландыі — 250 тысяч чалавек, і вялікая яго частка жыве тут. Горад раскінуўся на доўгім мысе, парэзаным ф'ёрдамі. Амаль усе ягоныя вуліцы прыводзяць да акіяна. У Рэйк'явіку паветра чыстае і празрыстае. Гара Эсья, якая знаходзіцца за 20 кіламетраў ад горада і бачная з любой яго кропкі, здаецца зусім блізкай.

У Рэйк'явіку няма буйных архітэктурных ансамбляў. Збольшага гэта двух-трохпавярховыя дамы з абавязковай мансардай. Многія з іх абшытыя гафрыраваным жалезам, каб супрацьстаяць зімовым ураганным ветрам. Ва ўсім уражанне лёгкасці і мэтазгоднасці, з абавязковым выкарыстаннем гарышчаў і падвалаў. Некаторая аднастайнасць збудаванняў ажыўляецца архітэктурнымі дэталямі і афарбоўкай сцен у яркія колеры, што надае гораду святочны настрой.

Вуліцы ў старой частцы горада вузкія. Рух аўтатранспарту часта аднабаковы. Тысячы машын разнастайных марак (іх, напэўна, больш, чым саміх ісландцаў) ціснуцца да дамоў, тратуараў.

Непадалёк ад цэнтра, на вяршыні ўзгорка — галоўны пратэстанцкі сабор Халгрымскірка. Ён падобны да ракеты, якая памкнулася ўвысь, або да асколка гары. Гэты самы вялікі храм у Ісландыі з'яўляецца духоўным і культурным цэнтрам сталіцы. У Рэйк'явіку даволі шмат пратэстанцкіх храмаў і толькі адзін каталіцкі. Ісландцы ў асноўным пратэстанты.

Ва ўсходняй, хутка растучай частцы горада высяцца шматпавярховыя дамы. Але жыхары пратэстуюць супраць будаўніцтва высотных дамоў. Яны не ўпісваюцца ў традыцыйную забудову, а ісландцы вельмі шануюць традыцыі.

У горадзе даволі мала дрэў. Прырода Ісландыі суровая. Тэмпература паветра ўлетку не перавышае 12 градусаў, і дрэвам халодна. Растуць тут рабіна (у ліпені яна толькі квітнела), бяроза, зрэдку елка. Ім даводзіцца змагацца з моцнымі ветрамі. Маленькія дворыкі Рэйк'явіка — часта агароджаныя кавалкамі лавы — пакрытыя зялёнай травой. Тут клапатліва ахоўваецца кожнае дрэўца.

Ісландыю часта называюць «пустэльнікам Атлантыкі». І сапраўды, жыццё Рэйк'явіка даволі ціхае, размеранае, не падобнае да бурлівага жыцця Капенгагена ці Берліна. Ісландцы рана ўстаюць і рана кладуцца спаць. Увечары вуліцы пустыя. Толькі зрэдку з ровам пранясецца матацыкліст у скуранай куртцы і пачварным шлеме. Але нягледзячы на адарванасць краіны ад мацерыка, узровень яе культуры, як мастацкай так і побытавай, вельмі высокі і разнастайны. У горадзе ёсць Нацыянальны тэатр, Нацыянальная бібліятэка. Нядаўна пабудаваны новы гарадскі тэатр і, на дзіва, шмат музеяў. Сярод іх — Нацыянальны музей Ісландыі, дзе прадстаўлены экспанаты, якія раскрываюць гісторыю краіны. Ёсць Нацыянальная мастацкая галерэя, К'ярвалцэнтр — муніцыпальны мастацкі музей. Гэта сучасныя выставачныя залы. Адна з іх — мемарыяльная, дзе выстаўлены творы слыннага ісландскага жывапісца Ёганэса К'ярвала. Ёсць дом-музей выдатнага скульптара, майстра магутных манументальных формаў Аўсмундура Свэнсана, дзе многія ягоныя скульптуры выстаўлены акурат на зялёным мурагу побач з яго атэлье, падобным да абсерваторыі. Ёсць Нацыянальная галерэя вядомага скульптара Эйнара Ёнсана. Музей — гэта яго дом і яго студыя. У цудоўным садзе, які прылягае да дома, сярод квецені рабінавых дрэў, на зялёных газонах стаяць яго бронзавыя скульптуры. Гэта мастак, у творчасці якога перапляліся сімвалізм, міфалогія, містыцызм. Яго творы упрыгожылі плошчы Рэйк'явіка. Гэта статуі Інгальфура Арнарсана —першага чалавека, які пасяліўся на гэтым бязлюдным востраве, — і Ёуна Сігурдсона — правадыра руху за незалежнасць Ісландыі.

Непадалёк ад цэнтра горада, побач з універсітэтам, пасярод зялёнага поля на сродкі скандынаўскіх краін нядаўна пабудаваны «Паўночны Дом» — культурны цэнтр з бібліятэкай, канцэртнай і выставачнай заламі. Месца, дзе моладзь паўночных краін ладзіць свае сустрэчы, фестывалі.

Адно з самых цікавых і незвычайных збудаванняў, узведзеных у Рэйк'явіку за апошнія гады — «Пэарл» (жамчужына). 16 гадоў таму знакаміты мастак Ёганэс К'ярвал, пра якога гаварылася вышэй, выказаў ідэю пра ўзвядзенне на вяршыні ўзгорка Эск'юхлід будынка, які быў бы цалкам прысвечаны мастацтву. У 1991 годзе гэтая ідэя была ажыццёўлена ў такім грандыёзным маштабе, якога К'ярвал нават не мог прадбачыць.

Па праекце архітэктара Інгімундура Свэнсана муніцыпалітэт Рэйк'явіка ўзвёў гэтае збудаванне, увянчанае шкляным купалам, які нагадвае талерку, што лунае ў паветры.

Унікальнасць архітэктуры і дызайну выяўлена ў сферычных комплексных канструкцыях, злучаных лесвічнымі пераходамі. Шэсць рэзервуараў, напоўненых вадою з гарачых падземных крыніц, звонку маюць срабрыстую паверхню, у якой адлюстроўваецца сонца, неба і навакольны ландшафт. Гарачая вада ідзе на ацяпленне сталіцы. У цэнтры паміж рэзервуарамі пад празрыстым купалам размяшчаецца зімовы сад, дзе растуць пальмы, фінікавыя дрэвы і іншыя паўднёвыя экзатычныя расліны. Побач дзейнічае фантан, які ў мініяцюры ўдае эфект гейзера. Тут жа экспану-

ецца выстава скульптуры, а на чатырох паверхах вышэй зімовага сада знаходзяцца галерэя мастацтваў, кафэтэрый, бар, рэстаран, а таксама памяшканне для сустрэч, канферэнцый.

На чацвёртым паверсе можна выйсці на адкрытую пляцформу, размешчаную па перыметры будынка. У ясныя сонечныя дні адсюль можна аглядаць панараму Рэйк'явіка і нават убачыць Снаефельдскі ляднік і шэрапурпуровыя горы паўвострава Рэйк'янэс, што нібы спускаецца ў акіян.

Акрамя буйных дзяржаўных музеяў у Рэйк'явіку вельмі шмат невялікіх мастацкіх галерэй. Выставы і канцэрты часта наладжваюцца не толькі ў сталіцы, але і ў наваколлі — у невялічкіх галерэях, што знаходзяцца ўздоўж аўтастрады, а таксама ў невялікіх гарадках непадалёк ад Рэйк'явіка. Тут няма паняцця перыферыі. Многія маладыя, а таксама непрызнаныя майстры (мастакі, музыканты) наладжваюць у гэтых гарадках міжнародныя фестывалі мастацтваў.

На трэці дзень нашага знаходжання ў Ісландыі — 17 ліпеня — прыйшоўся Дзень Незалежнасці. Прахалодна, ветрана, але сонца свеціць ярка, ва унісон святу.

Разам з Іварам і ягонай жонкай Росай ідзем у цэнтр Рэйк'явіка да альцінга. З намі наш даўні сябра Вільбарг і яе муж Гунлаўгур. Вільбарг Крысцьянсдацір мы ведаем даўно. Напярэдані кожнага новага года мы атрымліваем ад яе цудоўна выдадзеныя календары з пейзажамі Ісландыі. Яны вісяць у нас на сцяне, нагадваючы гэтую далёкую краіну. Кожны год я пасылаю ёй сваю навагоднюю гравюру. На ёй — П'еро і яго палаючае сэрца. Вільбарг была нітачкаю, што звязвала нас з Ісландыяй. Гэта ёй належала ідэя пра арганізацыю маёй выставы ў Рэйк'явіку.

Сёння на вуліцах шмат прыгожа апранутых людзей, але ніхто не стараецца вылучыцца. Ісландцам ва ўсім уласціва пачуццё меры. Мы падыходзім да плошчы Аўстурвэлур, (Усходняй), дзе знаходзіцца альцінг. Гэта невялікі будынак з шэрага граніту, упрыгожаны рэльефамі з выявай волата з паліцай, цмока, быка і арла. Гэта легендарныя духі-ахоўнікі незалежнай Ісландыі. Яны і сёння ўваходзяць у герб рэспублікі побач са шчытом — чырвоны крыж на сінім полі.

На плошчы гучыць музыка. На лаўцы каля зялёнага мурагу, пасярод якога тварам да будынка альцінга ўзвышаецца статуя Ёўна Сігурдсона, сядзяць пажылыя людзі, шмат дзяцей.

У 1330 годзе Ісландыя падпала пад уладу Даніі. Некалькі стагоддзяў працягвалася ўладарства дацкага караля. Ёўн Сігурдсон у 1840 годзе распачаў барацьбу за незалежнасць краіны. Барацьба цягнулася доўга, і толькі ў 1944 годе Ісландыя атрымала незалежнасць. Гэты дзень святкуецца сёння.

У Дзень нацыянальнай незалежнасці побач са скульптурай Ёўна Сігурдсона штогод адбываецца ўрачыстая цырымонія. Прэзідэнт краіны ўскладае вянок да падножжа статуі і прамаўляе фразу: «Першы сын Ісландыі — гонар краіны, яе меч і шчыт». У гэты ўрачысты момант з будынка альцінга выходзіць зграбная бялявая дзяўчына (звычайна яе ролю выконвае вядомая акторка) у чорным са срэбрам нацыянальным строі з белай накідкай на галаве. Яна ўвасабляе сабою свабодную Ісландыю. Пачэсная варта паліцэйскіх у белых фуражках і пальчатках урачыста ўшаноўвае яе. Гучыць нацыянальны гімн. Горда ідзе дзяўчына да цэнтра плошчы. Там, ля статуі Ёўна Сігурдсона, яна чытае вершы. Цырымонія заканчваецца. Прэзідэнт, члены ўрада і ганаровыя госці накіроўваюцца да набажэнства ў старажытную кірху, якая знаходзіцца побач з альцінгам. Людзі павольна разыходзяцца.

Мы яшчэ крыху прагульваемся вакол альцінга. Побач —вялікае возера з мноствам дзікіх качак — улюбёнае месца для шпацыру гараджан.

Агледзеўшы вузенькія вулачкі старога горада, мы вяртаемся дадому. Па дарозе заходзім у маленькі рэстаранчык, падобны да жылой кватэры. Тут многа старых рэчаў — столікі, лямпы, чучалы птушак і гербарыі ісландскай флоры. У куце — вялікі старажытны глобус на фігурнай падстаўцы. Чакаючы кавы, я аглядваю яго. Знаходжу нашу Беларусь і Ісландыю. Божа мой, як мы далёка забраліся!.. За акном, проста на вуліцы два маладыя афіцыянты ў белых куртачках і белых фартухах смажаць на вуголлі барана.

Увечары ў «MIR» у гонар свята сябры Кіраўніцтва наладзілі банкет. Побач з выставачнай залай быў накрыты доўгі стол з вытанчанымі закускамі і напоямі. Усяго ўдосталь! Нашыя сябры спявалі народныя ісландскія песні, песні на вершы Х.Лакснэса, псалмы. Людміла прынесла свой маленькі губны гармонік і далучылася да агульнага свята. Гучалі беларускія народныя мелодыі, танцы. Усім было весела!

Вось ужо некалькі дзён свеціць яркае сонца. Мы прывезлі сюды добрае надвор'е. Выстава адчыняецца ў нядзелю 20 чэрвеня. З раніцы ўжо завіхаюцца работнікі. Канчаткова даводзіцца да ладу выставачная зала, да бляску націраецца падлога. На вуліцы перад уваходам у выставачную залу на высокіх флагштоках упершыню на ісландскай зямлі ўрачыста развяваюцца беларускі бел-чырвона-белы і ісландскі сіні з чырвоным крыжам сцягі.

Зала з верхнім святлом, дзе размешчана экспазіцыя, выглядае святочна. Каля работ — букеты кветак. На маленькім століку, побач з нацыянальнымі сцяжкамі нашых краін — стос каталогаў экстрэнна аддрукаваных да адкрыцця, побач — кніга наведнікаў і плакаты з беларускімі нацыянальнымі строямі, якія мы прывезлі з сабой.

Пачынаюць збірацца госці, удзельнікі таварыства «MIR». Многія нам ужо знаёмыя. Святочна апранутыя мужчыны, элегантныя дамы з Саюза ісландскіх жанчын. Некаторыя ў прыгожых капялюшыках, у пальчатках. Прыходзяць мастакі, пасол Расіі з сям'ёй, прадстаўнікі Таварыства аховы правоў чалавека. Некаторыя госці прыйшлі з дзецьмі. Разносяць келіхі з віном. У зале — ажыўленне. Прыехала жонка Х.Лакснэса Аўдур, маладжавая, элегантная. Сівыя валасы сабраны ў высокую прычоску. Яна вельмі мілая і ўважлівая. Падарыла мне альбом пра жыццё і творчасць Лакснэса, і, пакуль мы з ёй размаўляем, гледачы ўсё падыходзяць, некаторыя з кветкамі. Ля стэндаў з вырабамі Людмілы — ажыўленне. Усе з цікавасцю разглядаюць яе вязаныя з воўны цацкі, многія жадаюць іх набыць.



Халгрымскірха.



«Пэарл».



Дом-музей скульптара Эйнара Ёнсана.

Адкрывае выставу кароткім прывітаннем Івар Ёнсан. Я дзякую арганізатарам выставы за цёплы прыём. Распавядаю пра гісторыю і культуру Беларусі, пра праблемы, якія стаяць сёння перад нашым народам. На выставе завязваюцца размовы, знаёмствы. Найбольшую цікавасць у ісландцаў выклікалі «Партызанская серыя», «Гэтае мілае гарадское жыццё», ілюстрацыі да «Песні Песняў» і, вядома, літаграфіі да сярэднявечнага ісландскага эпасу «Эда». «У гэтых работах адчуваецца ісландскі характар і магутная паўночная моц», — сказаў пра гэтыя работы вядомы ісландскі жывапісец Ёганэс Гейр. «Жанр ілюстрацыі, — працягвае ён, — даволі рэдкі ў Ісландыі. Выданне кніг патрабуе вялікіх выдаткаў. Наклады невялікія, і амаль усе кнігі выдаюцца без ілюстрацый». Ён запрашае наведаць ягоную майстэрню, і мы з радасцю прымаем запрашэнне. На выставе — шмат пытанняў, і наша цудоўная перакладчыца Бергтора Эйнарсдацір ледзьве паспявае дапамагаць мне. Ісландцы вельмі ўважлівыя да нас і нашых работ, і мы атрымліваем масу запрашэнняў ад новых знаёмых.

Побач з выставачнай залай — іншая, дзе ёсць невялічкі бар. Тут можна пасядзець за кубкам кавы, папаліць, абмяняцца ўражаннямі ад выставы. Падсаджваюся да адной пажылай пары. Аказваецца, маці жанчыны — беларуска, бацька — паляк. У 20-х гадах эмігравалі ў Данію, пасля лёс закінуў сюды. Яна доўга распавядае мне пра гэта, на вачах — слёзы...

Выстава працавала больш за два тыдні. Мы сустракаліся з рознымі наведвальнікамі. Былі людзі выпадковыя, былі — глыбока зацікаўленыя мастацтвам. Некаторыя прыходзілі па некалькі разоў. Адна дама ў другі раз прывяла сваю сяброўку. Яны доўга разглядалі мае работы, штосьці абмяркоўваючы, і на развітанне яна нерашуча падарыла невялічкі лісток з вершамі, навеянымі маёй выставай. Пазней Бергтора зрабіла падрадкоўны пераклад. Вось гэты верш:

*Як ты можаш, чалавечы дух,*
*Так разбудзіць маё гора?*
*Пра лёс народа, пра жорсткасць*
*чалавека і яго пагібель*
*Так могуць толькі майстры*
*ў мастацтве стагоддзяў.*

*Што ўзвышае мае думкі?*
*Ці гэта жанчына, што мые ля рэчкі,*
*Ці гэты доўгачаканы адпачынак*
*у полі?*
*Або маладая жанчына,*
*што бяжыць ад свайго лёсу,*
*Такая прыгожая ў сваёй адзіноце.*

*Яшчэ жывуць песні аб Суламіце.*
*Яны прылятаюць да мяне з карцін,*
*Як легканогія лані або ціхі вецер*
*у траўцы,*
*Так з'яўляецца любоў на лістках,*
*Як кветкі, што пахнуць вясной.*

Яе імя — Рагнейдур Гудмундсдацір.

*(Працяг будзе).*

# «АРШАНСКАЯ БІТВА» — 93




*Нататкі з фестывалю*

Ну вось і пайшоў у гісторыю яшчэ адзін фэст беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва».

Што такое аўтарская песня? Для мяне ёсць такое вызначэнне: канцэнтраванае выражэнне арыгінальнае паэтычнае думкі, афарбаванае лёгкай музычнай формай аўтарскага выканання. У беларускай аўтарскай песні ёсць свае адметнасці, таму так бурна развіваецца яна пачала разам з пачаткам нацыянальнага Адраджэння, на нашых вачах.

Аднак пачну з непрыемнага. Сёлета ва ўсёй красе паказалі сябе нашы мясцовыя, так бы мовіць, «прыблатнёныя» барды, якія прыбылі на фестываль «лавіць кайф». У выніку ў асабліва бесклапотных гледачоў сцягнулі гітару, некалькі заплечнікаў і сумак, у адной з якіх былі й дакументы. Гэта быў, бадай, самы непрыемны момант сёлетняга фэсту.

Сёлетні фэст згас ужо пад раніцу, разам з апошнімі зоркамі. Выступленні традыцыйна адкрыў Андрэй Мельнікаў. Ён вярнуў да жыцця гістарычную народную песню «Пра бітву пад Оршай». Матыў ейны, наколькі вядома, не захаваўся, і Андрэй рэстаўраваў яго, прапанаваўшы ўласную музычную адаптацыю вядомага тэксту. Што ж, зроблена няблага. І хаця Андрэй сказаў, што, маўляў, цяпер пра Аршанскую бітву вядома ўсім, у мяне на гэты конт ёсць іншае меркаванне. Многія маладыя аршанцы ўжо ў аўтобусе задавалі пытанне: а што гэта за бітва? А перад самым пачаткам выступлення да мяне падышоў адзін высокапастаўлены таварыш з суседняе Дуброўны і, узброіўшыся адрывачнымі ведамі па гісторыі, пачаў дыскутаванне на прадмет мэтазгоднасці святкавання гадавіны Аршанскае бітвы. Прыйшлося растлумачыць, што гэта не святкаванне, а музычны фэст, прысвечаны знакамітай падзеі. Аднак не ўпэўнены, што таварыш нешта зразумеў...

Мельнікаў — асоба складаная, верагодна як і ўсе творчыя асобы. І гэта знаходзіць адбітак у творчасці. Дыяпазон ягоных песень даволі шырокі, але найбольш прыкметнае месца ў гэтым спектры займаюць творы, якія ўмоўна можна аднесці да гісторыка-эпічных. Ёсць шэраг удалых песень з цыкла на вершы паэта-эмігранта Алеся Змагара, прысвечаных падзеям грамадзянскае вайны («Не сумуй па мне, старая», «Да апошняга камісара» ды інш.), зробленых ва ўласцівай Мельнікаву жорсткай манеры. Хаця, з іншага боку, ягонае выступленне на «Гравенькіх вечарах аўтарскай песні» ў Доме літаратара з цыклам новых песень паказала, што тут яму часам здраджвае пачуццё меры...

Кожнага разу з цікаўнасцюназіраю за выступленнямі палачанкі Леры Сом. Калі яна ў імпэце, то можа рабіць з аўдыторыяй усё, што захоча.

Трапная, іранічная, экспансіўная, яна добра валодае любымі фарбамі і можа спадзявацца заняць вядучае месца ў жанры. Не хапае нейкай дробязі, можа дасканаласці выканання і дыкцыі.

Анатоль Кудласевіч, як сапраўдны паляшук, прадставіў, паводле ягоных слоў, некалькі ўзораў палескага фальклору.

Лана Медзіч. Нягледзячы на сваю маладосць, гэтая дзяўчына ўжо мае прызнанне. У ейных песнях няма замкаў, бітваў, браткоў-славян ды іншай прабіўной тэматыкі. Тым не менш свет яе вобразаў надзіва глыбокі й выразны. Хаця наколькі правамоцна тут гаварыць аб вобразах? Яе ліра стварае адзін, але шчымлівы й вялікі вобраз: я і гэты свет вакол мяне.

У Ланы няма моцнага высокага голасу, у яе вельмі камерны стыль выканання, добры густ, дакладнасць сталага майстра.

Поўная супрацьлегласць Медзіч — Кастусь Герашчанка. Ён нібы спецыяльна створаны для выступаў на мітынгах ды фестывалях: добры голас, добры інструмент, высокі выканаўчы ўзровень, але... чагосьці нестае. Магчыма, самага галоўнага: свайго ўласнага светаадчування. Не магу сказаць, што тут прычынай. Магчыма, засілле песень «пра мову» і братоў-беларусаў, якія сталі сёння ўжо ходкімі трафарэтамі беларускай аўтарскай песні, прычым нярэдка на вершы іншых паэтаў, і ёсць тое, што нівелюе ягоную творчасць, перашкаджае скарыстаць свой патэнцыял? Але затое якое выдатнае выкананне!

Сапраўднаю падзеяй стала выступленне бардаўскага квартэта пад кіраўніцтвам Зміцера Сідаровіча «Камелот».

Ажыўленне песеннае традыцыі сярэднявечных менестрэляў —вось, калі каратенька, што такое «Камелот». Дарэчы, у хлопцаў у рэпертуары ёсць нешта накшталт песні-крэда: «Бубен, лютня і дуда». Тут увесь набор сярэднявечных фішак: і балада, і мадрыгал, і ваярскі марш, і рамантычна-тужлівая дума — менавіта сюды аднёс бы я прысвечаную Аршанскай бітве песню «Саколе»:

*Ой, дзядзьку, нядоля*
*Мне ляцець у поле,*
*Полечка нячыста,*
*Поле крумкачыста.*
*Смерцю тое поле*
*ой, перавітое*
*Сечы з маскалямі,*
*Чорнымі палкамі.*
*Спяць на ім жаўнеры,*
*Хлопцы-касінеры.*
*Ветрык ім шапоча,*
*Затуляе вочы...*

І ўсё арганічна, жыва, непасрэдна. У адрозненне ад эгацэнтрычнасці Медзіч ці «лубковасці» Кудласевіча, у музыцы «Камелота» прысутнічае і пэўная частка шалёнай энергіі рок-н-рола. Не дзіва, што пад канец выступу «Камелота» добрая палавіна гледачоў кінулася ў скокі ля сцэны пад іхнія песні.

Зразумела, гэтыя фестывальныя нататкі не прэтэндуюць на ўсеабдымнасць ці аналітычнасць, але даць уяўленне аб тым, што сёння адбываецца ў архіпелагу беларускай аўтарскай песні, думаю, могуць. У кароткім артыкуле нельга акрэсліць творчыя рысы ўсіх выступоўцаў, я падаў імёны ўжо вядомых аўтараў, так бы мовіць, сталых творцаў. Зразумела, нататкі носяць суб'ектыўны характар.

А выступіла каля дзесятка маладых аўтараў, некаторыя, напэўна, упершыню так шырока «засвяціліся». Напрыклад, добра заявілі аб сабе Алег Грушэцкі (Менск) і Васіль Аўраменка (Магілёў). Адчуваецца прагрэс у творчасці Зміцера Дзядзенкі (Орша), Ігара Мухіна-Рабянка (Магілёў), Наташы Казловай (Барысаў), Алега Дашкевіча (Менск). Але гаварыць пра іх як аб сталых аўтарах, думаецца, яшчэ ранавата. Аднак заахвочвальныя прызы, якія ўручалі на фэсце магілёўскія госці ад імя магілёўскае філіі БНФ, атрымалі бадай што ўсе.

А на заканчэнне адзначу, што 28 жніўня на бераг Крапівенкі, дзе адбываўся фэст і задоўга да яго Аршанская бітва, прыехалі не толькі «неарганізаваныя» гледачы, але і арганізацыі: апрача згаданага БЗВ прысутнічалі «Выбранецкія шыхты», гісторыка-краязнаўчыя клубы з Гомеля ("Талака") і з Віцебска ("Узгор'е"). Хто ведае, магчыма, нараджаецца яшчэ адна традыцыя?

**Юры КОПЦІК.**




## ТРЫСТА ТАКТАЎ

Чалавек у фраку паспешліва ўваходзіць у кавярню, што насупраць тэатра, і звяртаецца да афіцыянта.

— 87... 88, 89, бутэрброд з шынкай, пляшку піва, 97, 98, хутчэй, калі ласка...

— Прабачце, пан, чаго гэта вы ўвесь час лічыце? — пытаецца ў яго другі наведнік.

— 109... 110. Бачыце, я іграю ў оперным аркестры, і зараз у мяне перапынак у 300 тактаў. 137... 138... Афіцыянт!.. 146...

## УСЕМАГУТНЫ КАРОЛЬ

— З нашым дырэктарам вельмі цяжка працаваць.

— Чаму?

— Бо ён думае, што тэатр — гэта шахматная дошка з адным каралём і трыццаццю адной пешкай.

## КАЛІ ПРА ЎСЁ ЗАБЫВАЮЦЬ

Маладому дэбютанту даручылі невялічкую ролю. Але на першай жа рэпетыцыі дэбютант раптам збянтэжыўся, забыўшы партнёра, збіўся сам. І пытаецца ў чалавека, які падаваў яму нейкія знакі:

— Прабачце, вы, здаецца, нешта хочаце мне сказаць?

— Я суфлёр. Выбіваюся з апошніх сіл, каб напомніць вам словы вашай ролі! — адказаў той.

## МОЖАШ ВЫХОДЗІЦЬ ЗАМУЖ

— Мой зяць будзе акцёрам? Ніколі! — сярдзіта выгукнуў бацька пасля таго, як дачка расказала яму пра свой намер выйсці замуж.

Але ён усё ж такі схадзіў у тэатр, каб паглядзець на абранніка дачкі.

Пасля спектакля бацька сказаў:

— Можаш выходзіць за яго замуж, ніякі ён не акцёр...

## ХТО БОЛЬШ?

У час антракту тэатральны адміністратар звяртаецца да гледачоў:

— Толькі што ў фае згубілены кашалёк, у якім было 180 фунтаў стэрлінгаў. Уладальнік аддасць 30 фунтаў таму, хто яму верне кашалёк.



Нехта крычыць з залы:
—А я дам сорак!

## САЛДАТЫ Ў ТЭАТРЫ

Камедыю глядзелі навабранцы. Іхні смех і апладысменты падбадзёрвалі артыстаў. Пасля першага акта рэжысёр павіншаваў артыстаў з поспехам.

Другая дзея пачалася і скончылася пры мёртвай цішыні ў зале. А прычына простая: у час антракту старшыня сабраў навабранцаў і запытаўся:

— Чаму смех? Навошта смех? Забыліся, дзе знаходзіцеся? Вы ў тэатры! Яшчэ раз пачую — па тры нарады па-за чаргой!

## АДКАЗНАЯ РОЛЯ

— Ура! Я атрымаў ролю ў п'есе!

— Ты іграеш галоўнага героя?

— Не, я вяду каня, на якім ён едзе.

## ДЗЕ ШАФЁР?

Перад экзаменам прафесар звяртаецца да студэнта:

— На экзамене, як у тэатры. Вы акцёр, я — глядач.

— Цудоўна! Зараз я паклічу суфлёра.

## КРЫТЫЧНЫ ПАДЫХОД

— З кім вы толькі што размаўлялі?

— З артыстам.

— Убачыўшы яго на вуліцы, ніколі не скажаш, што ён артыст.

— Калі вы ўбачыце яго на сцэне, дык скажаце тое ж самае!

## МАРА

— Колькі б вы хацелі зарабіць, каб адчуваць сябе шчаслівым? — спыталі ў Бернарда Шоў.

— Столькі, колькі я зарабляю на думку маіх суседзяў, —адказаў драматург.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ

Аднойчы Бернард Шоў прыйшоў у тэатр, калі спектакль ужо пачаўся. Касірка адчыніла дзверы ложы і шэптам папрасіла драматурга ціхенька заняць сваё месца.

— А што, хіба гледачы ўжо паснулі? — запытаўся Бернард Шоў.

Пераклаў з украінскай мовы
Валерый Бабей.

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220050, МІНСК (МЕНСК), вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 10500
Замова 38
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

